Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 47 (4847) 27 лістапада 2015 г.



# Мой Караткевіч

**«Ён быў для мяне ўзорам высокага інтэлекту і адукаванасці, веды ў яго былі невераемныя! Караткевіч быў недасягальнай велічынёй для мяне. Мне падабаўся ягоны размах». Так пісаў пра яго найбліжэйшы сябра, саўдзельнік шматлікіх прыгодаў Рыгор Барадулін.**



*Малюнак Алесі Ісы.*

**Успамінаў пра яго шмат. Адны складаюць «асабістыя», тонкія томікі (прыкладам, «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» Адама Мальдзіса). Іншыя ўвайшлі ў грувасткі том «Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!» серыі ЖЗЛБ выдавецтва «Мастацкая літаратура». Словам, сёлетні юбіляр безуважным не застаецца.**

**І наўрад ці застанецца. Пра неаслабную цікаўнасць да яго — і яго творчасці, вядома ж, — сведчаць шматлікія навуковыя работы, перавыданне Збору твораў, прысвячэнні маладых паэтаў, чытацкая творчасць — усё безумоўна пацвярджае гэтае «Быў. Ёсць. Буду».**

**Слова пра свайго Караткевіча — як настаўніка, натхняльніка — гэтым разам скажуць Людміла Рублеўская і Антон Рудак, якраз той самы паэт «з новых», які без Караткевіча, хутчэй за ўсё, не быў бы. Уласна кажучы, без Караткевіча, яго бясстрашнай фантазіі, не было б шмат каго — і шмат чаго.**

**Ёсць і слова навукоўцы: Пятро Жаўняровіч даследаваў гісторыю першай публікацыі Уладзіміра Караткевіча, і размова ідзе зусім не пра «Машэку». Засталося дадаць, што 85 гадоў не толькі Уладзіміру Сямёнавічу — 85 споўнілася іншай, рамантычнай, фантастычнай Беларусі.**

**Чытайце на стар. 4, 6-7,11**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў лаўрэатаў, стыпендыятаў, дыпламантаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі з 20-годдзем з дня стварэння фонду. «Вашы дасягненні шырока вядомы не толькі на радзіме, але і далёка за яе межамі, а ваш прыклад служыць добрым арыенцірам для равеснікаў і яркім пацвярджэннем таго, што для талентаў у нас адкрыты ўсе дарогі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава са 105-годдзем навучальнай установы. «Ваша ВНУ — адна са старэйшых у краіне — сёння па праву лічыцца буйнейшым рэгіянальным навукова-асветніцкім і культурным цэнтрам. Тут падрыхтаваны больш як 65 тысяч спецыялістаў, сярод якіх вядомыя педагогі, вучоныя, мастакі і спартсмены», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Аляксандра Ткачонка з 65-годдзем. «Сыграныя Вамі ролі ў тэатры і кіно сталі значным укладам у скарбніцу культуры беларускага народа», — гаворыцца ў віншаванні. Дзякуючы высокаму прафесіяналізму Аляксандра Ткачонка, уменню ствараць глыбока эмацыянальныя і псіхалагічна дакладныя вобразы беларускае сцэнічнае мастацтва папоўнілася шэрагам запамінальных персанажаў, адметнай рысай якіх сталі высокая маральнасць, высакароднасць і сіла духу, перакананы прэзідэнт.

✔ Віцебская вобласць адзначыць 85-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча серыяй мерапрыемстваў. Урачыстасці з нагоды юбілею выдатнага пісьменніка-рамантыка і гісторыка пачаліся ў сераду ў Аршанскім музеі У. Караткевіча. Адкрылася выстаўка рукапісаў пісьменніка з музейных фондаў, адбыліся «круглы стол» «Стратэгія захавання памяці Караткевіча» і літаратурная віктарына па музейных залах для школьнікаў горада, пройдуць і іншыя мерапрыемствы.

✔ Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава, вядучая рубрыкі «Нататнік Яго жонкі» ў газеце «Звязда», стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу «Моцная сям'я — моцная дзяржава» і ўзнагароджана Ганаровай граматай грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» за ўсебаковае адлюстраванне сямейнай тэматыкі на старонках газеты «Звязда».

✔ У межах праекта «Вялікі тэатр — дзецям» Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі запрашае да ўдзелу ў конкурсе «Навагодняя сямейная цацка». Цацка павінна мець дачыненне да жыцця артыстаў, музыкантаў, танцавальных і музычных нумароў, спектакляў і інш. Самыя арыгінальныя работы ўпрыгожаць святочную ёлку ў Вялікім тэатры.

ISSN 0024-4686

9 770024 468001 15047

*Прэс-канферэнцыі*

# Эксперыментальная прастора

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь зладзіла прэс-канферэнцыю, прысвечаную стварэнню ўнікальнай дзяржаўнай установы культуры змешанага тыпу — Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў.**

Былі абмеркаваны пытанні аб будучай дзейнасці Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, прэзентаваны новыя праекты. Прэс-канферэнцыя пачалася не з пытанняў журналістаў і не з прывітальных слоў выступоўцаў, а з выступлення ў адным з пакояў цэнтра пластычнага тэатра танца «Адлюстраванне». Акрамя чароўнага прадстаўлення, увазе наведвальнікаў таксама была прадэманстравана выстаўка жывапісу беларускай мастачкі Жанны Капуснікавай "Другія Дажынкі". Па словах дырэктара Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Наталлі Шаранговіч, такое крэатыўнае адкрыццё мерапрыемства зусім не ход, а магчымасць адразу паказаць наведвальнікам, якой дзейнасцю ўжо сёння займаецца цэнтр.



Прывітальнае слова ад Ірыны Дрыга.

Акрамя Наталлі Шаранговіч, удзел у прэс-канферэнцыі ўзялі першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца і дырэктар музея «Віцебскі цэнтр сучаснага мастацтва» Андрэй Духоўнікаў.

З прывітальным словам да журналістаў звярнулася Ірына Уладзіміраўна. Яна адзначыла, што стварэнне Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў — даўняя неабходнасць не толькі таму, што падобныя цэнтры ёсць у іншых краінах, але яшчэ і таму, што Беларусь з'яўляецца адным з родапачынальнікаў сусветнага авангарднага мастацтва. Таксама намеснік міністра культуры падкрэсліла: Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў павінен стаць пляцоўкай для выяўлення талентаў і здольнасцей творчай моладзі і што яго сутнасць закладзена не толькі ў дэманстраванні выставачнай, музейнай дзейнасці, але і ў прадстаўленні музычнай і тэатральнай творчасці.

У сваю чаргу Наталля Шаранговіч закранула тэму папулярызацыі беларускай культуры за мяжой. Яна ўпэўнена, што Цэнтр сучасных мастацтваў зможа дапамагчы дасягнуць гэтай мэты і, дзякуючы сваёй шматфункцыянальнасці, стане не проста мастацкай, а эксперыментальнай пляцоўкай. Падчас прэс-канферэнцыі таксама было агучана, што Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь распрацоўвае палажэнне аб Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва, якой будуць узнагароджваць лепшых скульптараў, жывапісцаў, графікаў, дызайнераў, майстроў мастацкай фатаграфіі, аўтараў арт-аб'ектаў і аўтараў-пачаткоўцаў. Першую цырымонію ўзнагароджання плануецца правесці ў 2017 годзе.



Фота Кастуся Дробава.

Выступленне тэатра танца «Адлюстраванне».

**Вікторыя АСКЕРА**

# Дзень нараджэння Коласа на Брэстчыне

**Да дня нараджэння Якуба Коласа палешукі правялі шэраг літаратурных сустрэч у Лунінецкім і Пінскім раёнах Брэстчыны.**

**Сінкевічы**

Коласаўскі тыдзень у Сінкевіцкай сярэдняй школе пачаўся на канікулах. Вучні на чале з настаўніцай Ларысай Пятровіч здзейснілі падарожжа ў Мінск, дзе наведалі Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. З нагоды дня нараджэння класіка ў школе быў праведзены конкурс лепшых чытальнікаў вершаў паэта, а таксама конкурс юных мастакоў, на які прыма-ліся малюнкі па творах Якуба Коласа.

— У гэты ж тыдзень праводзім акцыю «Музейны экспанат», — паведаміла намеснік дырэктара Надзея Рудзька. — Дзеці прынеслі на часовую выстаўку свае сямейныя рэліквіі. Самыя цікавыя рэчы дадуць штуршок для навуковага даследавання.

**Пінск**

Змястоўная праграма «Лунінецкіх Каласавін» сёлета адбылася ў 24-ы раз. У Пінску ж праведзены Першыя коласаўскія чытанні. Пра пінскі перыяд настаўніцтва песняра паведаміла навуковы супрацоўнік музея Беларускага Палесся Ганна Садоўская. Першаадкрывальнікам коласазнаўства на Піншчыне быў Баян Міралюбаў. Нястомнаму краязнаўцу прысвяціў прэзентацыю яго паслядоўнік карэспандэнт газеты «Пінскі веснік» Вячаслаў Ільянкоў.

Новымі літаратурна-краязнаўчымі адкрыццямі падзялілася дэлегацыя Лунінецкага раёна. Моўную сітуацыю пачатку XX стагоддзя, у якую патрапіў пісьменнік у час знаходжання на Лунінеччыне, цікава рэканструявала аўтарка з Лобчы Настасся Якавец. Урыўкі з твораў Якуба Коласа артыстычна прадставілі навучэнцы.

Праграма мерапрыемства таксама ўключала наведванне кутка класіка нацыяльнай літаратуры ў бібліятэцы, што носіць яго імя, музея Беларускага Палесся, экскурсіі па горадзе і па музеі Якуба Коласа ў вёсцы Пінкавічы. Абноўленую экспазіцыю цудоўна прадставіла дырэктар Яна Сямыкіна. Удзельнікі Першых коласаўскіх чытанняў адзначалі, што, натхнёныя сустрэчай, будуць шукаць новыя цікавыя формы ўшанавання памяці песняра.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

# «Літаратура ў эфіры»

Пад такою назваю прайшла імпрэза, прысвечаная 90-годдзю Беларускага радыё, у Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

За час існавання Беларускага радыё склаліся традыцыі айчыннай радыёжурналістыкі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Сёння айчыннае радыё гучыць кругласутачна, прычым на васьмі мовах!

Вёў вечарыну, на якую завіталі і сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктар радыё «Беларусь», паэт Навум Гальпяровіч. Навум Якаўлевіч зазначыў, што не было ніводнага дня, калі б у радыёэфіры не гучалі песні на вершы айчынных паэтаў, творы айчынных празаікаў і драматургаў.

Віншавальнае слова мелі радыёвядучая, празаік Маргарыта Прохар, акцёр і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі, радыёвядучая Маргарыта Захарыя, сакратар СПБ Георгій Марчук, паэт Уладзімір Карызна, паэт і публіцыст Зіновій Прыгодзіч, прафесар, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», дзіцячы пісьменнік Уладзімір Ліпскі, аўтарка і выканаўца песні Наталля Нікіціна, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Улашчанка і самая маладая супрацоўніца радыё «Беларусь» Вікторыя Пяткевіч.

Георгій Марчук уручыў граматы СПБ Навуму Гальпяровічу і Маргарыце Прохар. Медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» ўзнагароджаны Алег Вінярскі і загадчык аддзела літаратурна-мастацкіх праграм Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Галіна Шаблінская.

Напрыканцы вечарыны прагучалі вершы паэтэс, сяброў СПБ Людмілы Клачко, Яны Явіч і Анастасіі Кузьмічовай у аўтарскім выкананні.

**Арына КРАЙКО**

*За падзеяй*

# След незабыўнага юнацтва

Імпрэза «Комсомольская юность моя…» адбылася ў Цэнтры тэхнічнай і мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна г. Мінска «Зорка» ў межах пасяджэння клуба «Гасцінныя сустрэчы».

Метадыст цэнтра Валянціна Ергольская прадставіла публіцы — старшакласнікам СШ № 23, 38, 125 і гімназіі № 32 — гасцей: паэтаў, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Аліну Легастаеву і Дзмітрыя Дземідовіча.

Аліна Антонаўна і Дзмітрый Аляксандравіч распавялі пра сваё юнацтва, якое прыйшлося на савецкі час, прадставілі школьнікам уласную творчасць, падзяліліся ўспамінамі пра прыём у камсамол, жыццё камсамольцаў. Дзмітрый Дземідовіч прадэманстраваў камсамольскі білет і значкі, якія мелі прадстаўнікі савецкай моладзі, фотаздымкі з асабістага архіва. Прачытаў на памяць і ўрывак з балады Аркадзя Куляшова «Камсамольскі білет».

Аліна Легастаева — аўтар шасці паэтычных зборнікаў, былая настаўніца, удзельніца будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі. «У кожным часе ёсць свой перадавы атрад моладзі», — падкрэсліла Аліна Антонаўна падчас сустрэчы. Яна распавяла пра 5-гадовы адрэзак свайго жыцця на Далёкім Усходзе — у Хабараўскім краі — і пра вяртанне ў Беларусь, а таксама паказала архіўныя фотаздымкі.

**Яна ЯВІЧ**

*Рэдкалегіі*

# «Нёманскія» хвалі

Адзін са старэйшых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных часопісаў Беларусі «Нёман» сустрэў свой 70-гадовы юбілей. З гэтай высокай і важкай датай калектыў рэдакцыі павіншаваў кіраўнік дзяржавы.

Не абмінулі юбілейную тэму і члены рэдакцыйнай калегіі «Нёмана». Асноўная плынь гаворкі была скіравана на пошукі і праблемы як самога часопіса, так і ўсёй сучаснай літаратуры. У змястоўнай і зацікаўленай размове бралі ўдзел дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар «Нёмана» Аляксей Чарота, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Каваленя, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны нашай краіны Уладзімір Макараў, пісьменнікі Анатоль Сульянаў, Наталля Голубева, Алена Папова, супрацоўнікі рэдакцыі.

Аляксей Чарота адзначыў асноўныя напрамкі публікацый часопіса: рускамоўная літаратура Беларусі, беларуская літаратура і сусветная літаратура ў перакладах на рускую мову. Штогод выдаецца беларуска-расійскі нумар пры падтрымцы Саюзнай дзяржавы. А сёлета разам з Інстытутам Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта выпусцілі нумар, прысвечаны кітайскай літаратуры. Прысутныя падтрымалі прапанову галоўнага рэдактара ўключыць у склад рэдакцыйнай калегіі пісьменнікаў Анатоля Андрэева, Анатоля Крэйдзіча, Георгія Марчука, Валянціну Паліканіну.

Аляксандр Каваленя падкрэсліў: «Надрукавацца ў "Нёмане" павінна быць гонарам для кожнага аўтара. Трэба публікаваць лепшыя творы і ўкраінскіх, і польскіх пісьменнікаў. Давайце правядзём дыскусійныя клубы. Не бойцеся эксперыментаваць, шукайце новыя формы работы. Ад нашага актыўнага супрацоўніцтва залежаць далейшыя поспехі».

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

# Маладая хада збоку

Часопіс «Маладосць» упартай, бадзёрай і, безумоўна, маладой хадой крочыць наперад. Да чытачоў, новых знаёмых, цікавых праектаў, рубрык, ідэй. Але каб такі энергічны хадок з заплечнікам аптымізму бачыў не толькі тое, што перад ім, але і тое, што побач, патрэбен погляд збоку. Такім поглядам стала сустрэча рэдакцыі часопіса з яго рэдкалегіяй.

Губляючы афіцыёз, размова ператваралася ў сустрэчу сяброў, якія даўно не бачыліся і якім ёсць пра што паразмаўляць. Першую вуду для разваг закінула першы намеснік дырэктара — галоўнага рэдактара Выдавецкага дома «Звязда» Алена Ляўковіч, узняўшы пытанне падпіскі, якое ніколі не страчвае актуальнасці. Другое пытанне тычылася жыцця часопіса ў інтэрнэце, яго прысутнасці ў сацыяльных сетках. Гэта і патрабаванне часу, і магчымасць камунікаваць з чытачамі. Частка размовы была скіравана на тое, як часопіс будзе прадстаўлены на новым агульным інтэрнэт-партале Выдавецкага дома «Звязда», які пачне працаваць у хуткім часе. Чым «Маладосць» вылучыцца сярод іншых выданняў, якім кантэнтам узбагаціць новы сайт?

Галоўны рэдактар выдання Святлана Дзянісава звярнула ўвагу на іншыя напрамкі дзейнасці рэдакцыі. Каштоўна тое, што часопіс умацаваў свае пазіцыі ў студэнцкіх рубрыках. «Пераклады» Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, «*Cathedra*» кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, «ГістфакТ» як рубрыка гістарычных факультэтаў краіны засведчылі істотную падтрымку самых старанных і творчых студэнтаў, аспірантаў і маладых выкладчыкаў.

Да пытанняў духоўнасці «Маладосць» звяртаецца новай рубрыкай «З Богам». Пашырае часопіс і тэмы крытычных артыкулаў: на старонках «Маладосці» цяпер у большым, чым раней, аб'ёме прысутнічае тэатральная і кінакрытыка. Пры гэтым, адзначыла галоўны рэдактар, літаратурная частка блока «Крытыка» магла б быць больш яркай. Хочацца таксама, каб часопіс больш шырока, пры дапамозе розных жанраў (а не толькі інтэрв'ю) асвятляў жыццё і дасягненні маладых беларускіх навукоўцаў. Важным крокам наперад Святлана Дзянісава лічыць і новы імідж «Маладосці», які можна будзе бачыць з № 11.

— Ні адзін часопіс за свой творчы шлях не прайшоў столькі абнаўленняў, — трапна заўважыў член рэдкалегіі, пісьменнік, публіцыст і рэдактар Алесь Бадак. — Часопіс займеў свой твар, свае імёны. Ён адпавядае духу часу.

Падзяліўся Алесь Бадак і сваімі крытычнымі назіраннямі, якія, аднак, тычыцца больш не самога часопіса, а стану сучаснай беларускай літаратуры ўвогуле. Так, па меркаванні пісьменніка, сёння не хапае арыгінальных, моцных твораў маладых пісьменнікаў: «Дзе тыя вершы, у якіх памятаеш кожнае слова? Часцей назіраеш гульню ў паэзію. З твораў знікае дух беларускай мовы, замест яе — інтэрнэтаўскі пераклад, калька з рускай».

Рэдактар аддзела прозы Настасся Галкоўская пагадзілася, што праблема ведання маладымі аўтарамі беларускай мовы паўстае вялікім клічнікам, шмат часу ідзе на тое, каб знішчыць рускасць з беларускіх твораў. Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар часопіса «Нёман», член рэдкалегіі Аляксей Чарота заўважыў, што хацелася б бачыць больш лагічнае далучэнне творчасці сталых аўтараў да творчасці маладых: «Трэба даваць ад сталых толькі такія творы, па якіх сапраўды можна вучыцца».

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# «Па-вожыкаўску»

Перспектывы развіцця адзінага дзяржаўнага выдання сатыры і гумару былі абмеркаваны падчас пасяджэння рэдакцыйнай калегіі часопіса «Вожык», які сёлета адзначыў юбілей. 70 гадоў таму выданне атрымала сваё калючае імя, стаўшы пераемнікам знакамітага выдання, агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Сярод актуальных пытанняў, якія акрэсліў намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Вожык» і яго штатны мастак Аляксандр Каршакевіч — правядзенне падпісной кампаніі, творчае супрацоўніцтва з іншымі выданнямі, прамоўшн у інтэрнэце, пашырэнне тэматычнай разнастайнасці твораў… Шэраг слушных прапаноў па кірунках дзейнасці выдання агучыла першы намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Алена Ляўковіч.

Намеснік старшыні ўпраўлення друкаваных СМІ і знешніх сувязей Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Галіна Гусакова ўзняла даволі сур'ёзныя пытанні: электронная падпіска, супрацоўніцтва з грамадскімі арганізацыямі, правядзенне конкурсаў, адкрыццё старонак у сацыяльных сетках і іншыя. «Сёння трэба прыцягваць увагу, збіраць чытача вакол сябе», — падкрэсліла прадстаўнік Міністэрства інфармацыі.

Аляксей Чарота, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман», які сёлета быў уключаны ў склад рэдкалегіі часопіса «Вожык», акцэнтаваў увагу на дзейнасці выдання ў межах інтэрнэт-прастор: "Я лічу, што для «Вожыка» гэта будзе вельмі зручная і ўдзячная праца. Часопіс — унікальнае гумарыстычнае выданне ў Беларусі».

На пасяджэнні былі разгледжаныя і меркаванні тых членаў рэдкалегіі, якія не змаглі прыняць удзел у нарадзе, але выказалі свае заўвагі і прапановы ў пісьмовым выглядзе.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**28 лістапада** — *на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Доблесць» пры Цэнтральнай бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**30 лістапада** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**2 снежня** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 снежня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзем Пашковым, прымеркаваную да юбілею У. Караткевіча. Мерапрыемства адбудзецца ў Дзяржаўным турыстычна-аздараўленчым цэнтры дзяцей і моладзі (вул. Варанянскага, 31). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**3 снежня** — *на літаратурнае свята «Расчыні акно душы сваёй насустрач сонцу», якое адбудзецца ў Бярэзінскай цэнтральнай бібліятэцы (г. Беразіно, вул. Камсамольская, 27) з удзелам пісьменнікаў Наталіі Касцючэнка, Міхася Пазнякова, Валянціны Паліканінай. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**3 снежня** — *у літаратурны клуб «Жывое слова» пры СШ № 56 (вул. Каменагорская, 70). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**4 снежня** — *на конкурс мастацкага чытання твораў беларускіх і рускіх паэтаў сярод пракурорскіх работнікаў органаў пракуратуры г. Мінска. Мерапрыемства адбудзецца ў актавай зале Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (вул. Рабкораўская, 17, ауд. 123). Пачатак а 15-й гадзіне.*

# Мелодыі ды ўражанні

Творчая вечарына айчыннай паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Алены Шчарбаковай, прымеркаваная да яе юбілею, прайшла ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 7 імя Якуба Коласа.

На імпрэзу завіталі калегі Алены па пяры, а таксама сябры і родныя. У фае гасцей сустракаў музычны ансамбль «Акорд», заняткі якога праходзяць на базе бібліятэкі, пад кіраўніцтвам Ігара Анодзіна. Падчас вечарыны аўтарка прэзентавала свой новы паэтычны зборнік «Мелодыя дажджу».

Павіншаваў юбілярку і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. За актыўны ўдзел у жыцці творчай арганізацыі ён уручыў Алене грамату Саюза пісьменнікаў.

Да ўрачыстай падзеі далучыліся акцёры самадзейнага тэатральнага калектыву «Майстэрня ўражанняў». Некалькі песень дуэтам выканалі бацька Алены Яўген Шчарбакоў і Уладзімір Лабоцкі. Пачулі гледачы спевы пад гітару ў выкананні Ірыны Калугінай. Пра дзяцінства А. Шчарбаковай і яе шлях да творчасці распавяла прысутным сястра Марына. Цёплыя словы сказалі пра Алену загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка, сябры СПБ Анастасія Кузьмічова і Вольга Шпакевіч.

**Яна ЯВІЧ**

# Які булён на смак?

**У Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка адбылася творчая сустрэча з членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, даследчыкам Пастаўшчыны Ігарам Пракаповічам.**

Ігар Міхайлавіч не толькі пісьменнік, але і вядомы краязнаўца, аўтар каля трох дзясяткаў паэтычных і навукова-папулярных выданняў. Ён прэзентаваў чытачам новую кнігу пад назвай «Булён», дзе сабраны вершыкі і гісторыі для вясёлых людзей. Гэта своеасаблівы навар пачуццяў і эмоцый, да краёў напоўнены гушчай нечаканых і незвычайных, у большасці жартоўных, падзей, здарэнняў, жыццёвых гісторый. Адным словам, атрымаўся сапраўдны наварысты булён, які з ахвотай пакаштавалі ўсе, хто завітаў на сустрэчу.

**Аляксандр БЫКАЎ**

# Ці перакладаць сябе самім?

**У газеце «ЛіМ» за 20 лістапада 2015 года ў артыкуле Алесі Лапіцкай «Перакладаць?», прысвечаным «нёманаўскаму» «кругламу сталу», са здзіўленнем прачытала наступнае: «…Наталля Казапалянская перасцярагае ад аўтаперакладаў: «самыя горшыя пераклады — гэта калі пісьменнік сам перакладае сябе».**

Хочацца сказаць, што гэта прыкрая памылка. Здаецца, хтосьці з выступоўцаў абраніў гэтую фразу. Але адназначна — не я. Бо я маю непасрэдную справу (у асноўным — як рэдактар) з перакладамі вершаў, прынамсі, з беларускай на рускую мову. І бачу, якая гэта няпростая, тонкая справа.

Часам здараецца: перакладчык выдатны, але творы аднаго аўтара, як кажуць, «пойдуць», а другога — не. Бо, відаць, патрэбныя для натхнёнай працы і адчуванне паэта і яго твораў, і пэўны настрой. Гэта не заўсёды ёсць. Таму калі аўтар перакладае сябе сам — не бачу нічога кепскага. Многім, пэўна, вядомы класічны выпадак: Іосіфа Бродскага запыталі, чаму ён сам перакладае на англійскую мову свае вершы. Паэт адказаў — таму што яго літаральна жахнула тое, што атрымлівалася ў іншых перакладчыкаў.

Падсумоўваючы, хачу сказаць наступнае: аўтары, калі ласка, перакладайце свае творы і самі. Галоўнае — каб добра атрымалася!

**Наталля КАЗАПАЛЯНСКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Валерыю Аляксандравічу Максімовічу з прычыны смерці маці — Ганны Каятанаўны.

# З вершамі па жыцці

**Школа паэзіі «Лотас» заснаваная на Віцебшчыне, у Оршы, пісьменніцай, бардам, членам літаб'яднання «Дняпроўскія галасы», педагогам Марыяй Дзмітранок у 1993 годзе. Цяперашні кіраўнік — яе дачка Мар'яна Шамалава (творчы псеўданім — Анастасія Сіяніна), таксама пісьменніца, бард, сябар таго ж літаб'яднання. За час існавання «Лотаса» прайшлі навучанне амаль 200 дзяцей, юнакоў і дзяўчат 6 — 18 гадоў. Тут выкладаюцца асновы паэтычнага мастацтва і дэкламацыя, вывучаюць біяграфіі ды творчасць паэтаў свету. Кіраўнікамі ўстановы выдадзена каля 120 вучнёўскіх паэтычных зборнікаў, у тым ліку калектыўных. Геаграфія творчых вандровак — Віцебск, Мінск, Полацк, Смаленск, Санкт-Пецярбург, Масква, Алтай ды іншыя мясціны. Навучэнцы «Лотаса» — пераможцы гарадскіх, раённых, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў, выступаюць са сваімі творамі ў перыядычным друку. У «Лотасе» праводзяцца літаратурна-музычныя вечарыны, рэалізуюцца творчыя праекты, арганізуюцца выступленні навучэнцаў і кіраўніка. У снежні мінулага года Школе паэзіі «Лотас» прысвоена званне ўзорнай. Да 85-годдзя з дня нараджэння славутага земляка, паэта, празаіка, драматурга і сцэнарыста Уладзіміра Караткевіча ўзорная Школа паэзіі «Лотас» падрыхтавала нізку вершаваных твораў, што і прапануюцца сёння чытачам «ЛіМа».**



**Марыя ДЗМІТРАНОК**

## Дзень сына Радзімы

26 лістапада

*Бараніце паэтаву волю,*
*Не трымайце свабодныя крылы:*
*Ён адлегласць зямную здаволіў,*
*Растварыўся ва Ўладах і Сілах!*

*Бараніце гадоў справядлівасць,*
*Бо не трэба яму хваляванне:*
*Пяцьдзясят тры з астаткам —*
*вось ніва*
*Яго стромкіх надзей і кахання!*

*Бараніце ягоныя ўгодкі,*
*Бо ён так на Зямлі разлічыўся*
*І, злучыўшы нашчадкаў і продкаў,*
*Службу здаў, каб з нас кожны маліўся!*

*Бараніце ягоную шчырасць*
*І з усімі нясіце па свеце*
*Дзеля ладу, трываласці міру*
*Без прыбаўкі гадоў пасля смерці!*

*Бараніце ягоныя даты:*
*Нараджэння, шуканняў і скону,*
*Бо яны ўсенароднае свята,*
*Спалучэнне Касмічных Законаў!*

## Караткевічавы юбілеі

*На першым дзясятку ён быў вертуном*
*І ведаў пра ўсё, што за школьным акном,*
*І вершы пра гэта шчасліва складаў,*
*А потым на вецер іх з жартам аддаў.*

*Дзясятак другі апаліла вайна:*
*Ва ўцёках, без родных, лёс вызнаў*
*спаўна…*
*Тры класы яшчэ па тым часе прайшоў,*
*Да сутнасці кожнай драбніцы дайшоў.*

*Пасля вызвалення радзімы сваёй*
*Вярнуўся. Зноў школа. Быў шчырым у ёй:*
*Зноў вершы — часопіс «Званочак»*
*люляў, —*
*Але час імклівы і іх пагубляў.*

*На трэцім дзясятку — універсітэт,*
*Да працы даследчыка зведаў імпэт,*
*Але распавесці пра памяць схацеў —*
*У літаратуру як шчыт уляцеў*

*«Машэкам» і «Матчынай (вернай!)*
*душой»,*
*Вядомасць прынёс як настаўнік, герой,*
*Бо горы радкоў пра адкрытае звеў*
*У сэнс і спагаду крыніц і часоў.*

*Чацвёрты дзясятак вёў як раманіст:*
*У «Нельга забыць» ён мудрэц,*
*фалькларыст —*
*Ў сваіх «Каласах…», у надзеях —*
*«Хрыстос…»*
*Народ яго славу далёка панёс:*
*На поўнач, на поўдзень, на захад,*
*на ўсход!..*
*І ў пяты дзясятак паверыў народ,*
*Бо «…замак Альшанскі» да костак*
*праняў,*
*Каб памяць стагоддзяў з нас кожны*
*прыняў.*

*А шосты дзясятак… на прэміях рос,*
*Пачуў «Быў. Ёсць. Буду», свет казак*
*узнёс.*
*І ў Вечнасці Казку тытана забраў,*
*Які як араты яе узараў*

*І шчодра насеннем сваім надзяліў,*
*Каб кожны нашчадак як Белы Наліў*
*На глебе тытана аршанскага ўстаў, —*
*Каб гэтак жа ўпарта спагаду вярстаў.*

*Астатнія ўсе юбілеі — пасля…*
*І ўсе — не яго, але й тут ён цясляр:*
*Працягвае творчасцю ў сэрцы звінець —*
*Прад Вечнасцю ўбелены ім чырванець.*

## Знявечанае і адвечнае

Мая праўда пра Караткевіча

*У парк Яго ізноўку не пайду*
*І буду невыказна шкадаваць,*
*Ці на мой сорам, ці ўжо на бяду*
*Яго у адзіноцтве шанаваць,*

*А можа, і на шчасце: Гулівер*
*З мадэрным «Дыснейлэндам» для дзяцей*
*Прыхільніцу не ўзрадуе цяпер —*
*Ён не герой-аршанец, ён з гасцей,*

*Ён для прасторы створаны сваёй,*
*І помнікі яму хай там стаяць,*
*З дзяцінства блізкі кніжны ён герой,*
*І толькі так магу яму спрыяць.*

*Ў пакоі зноўку будзе цішыня*
*Пранізлівая — у вушах званы…*
*І буду зноў глядзець на кацянят*
*Ў Яго руках. Ужо рукі… дзірваны…*

*Не, прэч адкіну здрадніцу нуду*
*І першы том адкрыю, як заўжды.*
*«Дарогі ўсёй зямлі маёй…» звяду*
*Ў адзіную — ратунак ад бяды.*

*І зноў пашлю падзяку сваякам —*
*Усім, хто словы ведае свае.*
*І памалюся ўзнесеным вякам,*
*Яны з тварцамі веры аднае.*



Уладзімір Басалыга, Уладзімір Караткевіч і Алесь Марачкін каля карціны А. Марачкіна «Вераніка і Максім», 1981 г.

**Анастасія СІЯНІНА**

## Шчырасць

Песня

*Ціхмянай вуліцай прайду хадой*
*няспешнаю,*
*Цябе згадаю паміж зор і між планет —*
*І адгукнешся Ты прамоваю суцешнаю:*
*«Душой я побач, бо яднаны Божы Свет!»*

*Прыпеў (2 разы):*
*У родных хвалях*
*Сэрца люляе:*
*Пераплялося лёсаў радно.*
*Ўчора і сёння*
*Шчырасць ва ўлонні:*
*Вершы ці проза — шчасце адно!*

*Павольна мроіцца аб тым, што*
*пажадаецца:*
*Мясціны песцяць, вытанчаючы радок,*
*Дзе кожны ўбачаны каменьчык*
*згадаецца*
*Ўспамін-прамень пакласці ў памяці*
*грудок.*

*Прыпеў (2 разы).*

*Пайшоў далёка, але шлеш парады*
*слушныя*
*З таемна-зорнай непахіснай цішыні —*
*Яны гучаць як запаветы непарушныя*
*Любоў і Розум захаваць у нашы дні!*

*Прыпеў (2 разы).*

**Назар ШАМАЛАЎ, 11 гадоў**

## Дапамога

*Свежыя думкі сэрцы запоўнілі —*
*І загучала святло ў галаве:*
*Кнігі паэта разам успомнілі*
*Ўсе, хто любоўю чыстай жыве.*

*Пра Караткевіча зноўку гаворыцца:*
*Вершы, паэмы… з падзякай бяруць,*
*Хтосьці цяпер пачынае знаёміцца,*
*Дзесьці аб ім песні зычна пяюць…*

*Не дачакаўся вялікае шчырасці*
*Дзетак, дарослых, што ведаюць час,*
*Але ўсім ён дапамог хутка вырасці*
*І аднавіць Чалавечнасць не раз!*

**Яна ВАЛОДЗЬКІНА, 10 гадоў**

## Сардэчны сябар

*Уладзімір Караткевіч — сябар наш*
*сардэчны:*
*Ён любіў сваю Радзіму, чалавецтва,*
*Вечнасць,*
*Вандраваў па вёсках, рэках, па лясах,*
*па замках*
*І збіраў сваё натхненне на жыцця*
*напрамках.*

*Ён пісаў пра свет дзяцінства*
*і юнацтва хвалі,*
*Пра каханне, мудрасць, шчасце,*
*што заўжды шукалі,*
*Пра Радзіму і прыроду, пра жанчыну,*
*маці,*
*Пра рашучасць, чалавечнасць,*
*пра спагаду ў хаце…*

*Творы вабяць інтарэсам, людзям*
*даспадобы:*
*Прачытаеш іх — і быццам курс*
*прайшоў вучобы.*
*Хоць ужо паэт далёка, недзе*
*з вечным плёсам,*
*Ды знаёмімся дагэтуль мы*
*з ягоным лёсам.*



Марына КАВАЛЕВІЧ

# Праз споведзь душы



Аксана павярнулася да акна, адклаўшы ўбок свой дзённік. «Не падпускаць блізка да сэрца, ды і наогул, ні на крок, ні на сантыметр, ні на міліметр не даваць п'едэстал разгубленасці пры сустрэчы позіркаў. Калі ісці, то паасобку, у працілеглых кірунках, па адасобленых маршрутах, не адчуваючы дрыжыкаў, іх неперабойнага пранізвання з ног да галавы ўрыўкамі памяці. Ні на гадзіну, ні на хвіліну, ні на секунду не трызніць аб аднабаковай і маланадзейнай прыхільнасці. Больш за тое, увасобіць кароткачасовае зацямненне вынаходлівасці пры жаданых абставінах, каб, нарэшце, уздыхнуць з палёгкай. Стан унутранага раўнадушша: калючасць, замкнутасць, цвёрдасць намеру без пахіствання, без спатыкання, без няпэўнасці, са здольнасцю адстаяць права на цвярозасць цяперашніх думак, робячы запіс на паперы, можа, дзе-нідзе і прапускаючы знакі прыпынку праз паспешлівасць рукі, цалкам паглыбіўшыся ў разбітасць кахання. Калі выпадкова (о, як люблю гэтае слова!), ненаўмысна выпадзе спляценне лёсаў, то неабходна будзе спапяліць узвышанай усмешкай не да канца забытыя пацалункі, узлёты надзей на даўгавечнае шчасце. Наіўнасць просіцца, але так і будзе, вось менавіта так усё і будзе! Абяцаю адпусціць цябе, мой мілы дружа. Мілы?... А помніцца, вымаўляўся гэты зварот без жорсткасці, без раздражняльнасці, без разгневанасці.

*P. S. Не будзе ніякай недаказанасці, недамоўленасці, невядомасці».*

***

Краплісты дождж неперабойным пастукваннем уваскрэсіў той ажыўлены гарадскі аўтобусны прыпынак, калі яна яшчэ адчувала сябе акрыленай на імгненне. Перад вачамі паўстаў квартал, такі вось, як і цяпер, спорны дождж, парасон у ягонай руцэ і яшчэ кінутыя не на вецер, а адрасаваныя ёй жахлівыя словы:

— Разлюбіў… Так атрымалася…

Халоднасць, аглушэнне, невыноснасць болю спотайку ахапілі ўраз з усёй імгненнай хуткасцю. Спантаннае прызнанне паклала пачатак нязвыкламу аддаленню і перанеслася дзесьці там, у галаве, даючы поўную падставу для свайго пануючага існавання. Самкнёнасць рук аслабілася, Аксанін разгублены позірк знайшоў прытулак у прадонні знаёмых васількавых вачэй, яго бянтэжлівы — у людскім натоўпе. Гуляючы з маўклівасцю, не зважаючы на разбітасць і непазбежнасць расстання, хацела аднаго: забыцца. Усё, што паспела зрабіць, — гэта, стрымліваючы слёзы, вымавіць нягучна:

— Прычына якая?..

Праз мітуслівасць пачула не зусім адказ, не зусім праўдзівасць ды ілжывасць тлумачэння.

— Разлюбіў, — паўтор аглушыў двойчы не шкадуючы.

Імпульсіўна Аксана прымусіла сябе адвярнуцца, пераацэньвала ў глыбіні роздумаў толькі што пачутае, думаючы, што так будзе хоць трошачкі лягчэй. Не, наадварот, з кожным удыхам і выдыхам станавілася няёмка не перад кімсьці, а перад сабой. Яна стаяла паміж двума франтамі: паміж іскрою надзей і расчараваннем, паміж змяшчальнасцю ратунку і яго поўнай адсутнасцю, паміж стойкасцю і бяссіллем, паміж парывам і стрыманасцю. А чаго яшчэ трэба было чакаць? Да чаго яна імкнулася? Да адзінага ўзаемнага кахання на ўсё жыццё? Ды такога не бывае ў гэтым абясцэненым ужо свеце, такая чысціня шчырасці, уласцівая ёй, страчана беззваротна і разбіта назаўсёды. Усё, што было, ніколі не вернецца і, тым больш, без падзення і крушэння напружанай драмы не скончыцца. Наўрад ці давядзецца абыякава і здзічэла глядзець праўдзе проста ў вочы. Не хочацца, няма ніякага жадання быць знясіленай перад кплівасцю. Так, менавіта насмешка — па-іншаму гэтую сітуацыю ніяк не назавеш. Ягонае тлумачэнне ў трох скупых словах выпаліла ўсё светлае і святое. Хапала трох слоў, не больш і не менш, але якіх! Колькі яны ўвабралі ў сябе моцы, каб замацаваць безвыходнасць падуладна!

Аксана павярнулася ў яго бок, сама не ведаючы навошта. Чаму ён не запярэчыць, чаму не скажа, што гэта ўсё выдумка, хлусня? Можа, для таго, каб ёй насаліць, адплаціць спаўна? А нашто, дзеля чаго? Зазірнула, сарамеючыся, у яго вочы і прачытала па складах няведанне адказу. Ні шэптам, ні гучным словам, а цішынёй і сэрцабіццём разыходзілася разважанне. Стаялі адно насупраць аднаго, здаецца нават, што і на скрыжаваннях дарог так наводдаль не стаяць. А давялося ўсё ж такі і стрымлівацца, і нервова маўчаць, і заўчасна развітвацца позіркамі. Нешматслоўны выдаўся дыялог, нібы без віны апраўданне пераўзышло само сябе. Рэзкая мітусня людзей вярнула ў негаваркую атмасферу. Ён неспадзявана зрушыўся з месца і знік, растварыўся ў паветры, стаў нябачным для яе.

Страчаная апошняя радасць проста быць побач абарвалася і гучным голасам з аўтобуса, які непрыкметна ўжо ад'язджаў ад платформы: «Асцярожна, дзверы зачыняюцца…»

Дзяўчына страсянулася ад роздумаў, не адразу ўцяміўшы: калі гэта парасон аказаўся ў яе руках, калі гэта нядаўна яшчэ ўзаемна любы (як яна памылкова думала) прашмыгнуў у перапоўнены пасажырамі аўтобус? Калі?.. Кроплі дажджу зліліся са слязьмі і толькі цяпер пранізліва-балюча апяклі свядомасць рэаліі без усякай спекуляцыі. А на што яшчэ было спадзявацца? На тое, чаго яна сама хацела і да чаго не імкнуўся ён? Не бывае так, каб планы супадалі, так проста не бывае. У душы спусташэнне і больш нічога, акрамя пустаты. Аксана хацела кінуцца за аўтобусам, але… Што стрымала яе, што прымусіла моўчкі назіраць за тым, як ад яе ўсё аддаляюцца і аддаляюцца? Аслабленая і нікім не суцешаная, адчула млоснасць. Здавалася, яшчэ трошачкі — і не вытрымае, упадзе. Толькі адно дапамагло выстаяць, не страціць прытомнасць: вера і спадзяванне на тое, што, можа, усё яшчэ абыдзецца, можа, вернецца, можа, адбаліць… Але гэта была ўяўная вера.

Не думаць, ды думаецца… Чамусьці ажыў слупок з завучанага верша. Радкі самі ўрэзаліся ў яе і цяпер дыктавалі словы праз уздрыгванне веек:

*Ізноў разбітасць апаліла.*
*Як невыносна жыць!*
*Цябе ніяк не разлюбіла,*
*Хоць здолеў ты і разлюбіць.*

*Прароцтва спраўдзілася…*

***

Вечар… Вецер… Дождж… Парасон… Усё як і тады.

Апранутая па-асенняму цёпла, Аксана няспешна ішла па вуліцы ўспамінаў. Кажуць, што не трэба адной аглядаць тыя мясціны, дзе раней былі шчаслівыя ўдваіх. Няхай сабе і кажуць — насуперак довадам іншых, няхай нават і на злосць іншым ёй хочацца рабіць тое, да чаго імкнецца душа, а ёй, душы, хочацца ўдосталь нацешыцца мінулым. А калі было тое нядоўгае пачуццё акрыленасці? Тыдзень, месяц, год, два гады таму? Здаецца, гэта было ўчора вунь там, на той пафарбаванай лаўцы, што стаіць пад азяблым клёнам, ці там, дзе паводдаль адзін ад аднаго мільгацяць светлафоры, падаючы рознакаляровыя знакі забароны, перасцярогі і дазволу на пераход і праезд. А можа, вунь там… Не паспела дадумаць, як раптам знаёмая постаць зацьміла ўсе думкі.

Вось яна, выпадковасць! Ён і яна зноў апынуліся на размытым дажджом тратуары. Аксана адна, а ён вядзе пад руку сваё новае светлавалосае каханне. Ідуць, смеючыся, ёй насустрач.

Сустрэча позіркаў — і словы, усё ж такі праўдзівыя, ажылі праз гады:

— Разлюбіў… Так атрымалася…

«Не падпускаць блізка да сэрца», — радкі са споведзі душы якраз паспелі на дапамогу.

Што гэта так рызыкоўна кальнула проста ў грудзях, дзе сэрца адбівае штуршкі пасекундна? Рэшткі замкнёнага на ўсе ключы незарубцаванага кахання? Не. Цяпер яна ведала дакладна, што гэта рэшткі былога кахання!.. Вось праўдзівасць, якой раней так бракавала для яснасці і прасвятлення. Нечаканасць сустрэчы (а мо і яе чаканне!) зруйнавала ўшчэнт драбнюткасць паўзабытасці, паўслоў, паўфіналу. Зусім і не самападман прыспеў на дапамогу, а сталасць адчужэння. Для гэтага неабходна было толькі пераацаніць страту і ўзвысіць пэўнасць мыслення. Аксане здалося, што вызваленне прабудзіла яе загартаваную душу і дасяжнасць дзеянняў узяла верх над задуменнасцю. Ці надоўга гэты спектакль? На кожны наступны дзень, на ўсё жыццё. Яна здолела захаваць смеласць і рашучасць, нягледзячы ні на што. Нават і не верылася: ці магла раней толькі падумаць, што знойдзе ў сабе столькі сілы для храбрасці, што перахітрыць слабасць і паверыць у стрыманасць? Якая вытрымка, загартаваны характар! Час перамяніў яе і, на здзіўленне самой, гэтыя змены падабаліся, прыносілі не тое каб пазітыў, не тое каб радасць, а штосьці сярэдняе паміж гэтымі двума паняццямі. Нікому: ні яму, ні той дзяўчыне, што глядзела на яго ўлюбёнымі вачыма, — яна не жадала ліха, такога не было і блізка ў думках. О, гэты ўлюбёны позірк… На імгненне ўспомніла такую ж акрыленую сябе, ды штосьці ніяк не ўсплывалі ні пырскі вады з лужын пасля хуткаснай беганіны наперагонкі, ні першая сустрэча. Нічога з таго, што можна было б адназначна назваць шчасцем. Па добрай волі не ўмешвалася ў размову, намагалася не падаць віду, што знаёмая з ім, што на гэтай алеі, усыпанай барвовым лісцем, яна ўсяго толькі прахожая, калі б і была прастуджана, то дрэнным надвор'ем, а не ім. Калі б была… Вось іменна, калі б была, а цяпер папраўлялася. Не, яна і не пярэчыць, што хварэла і трызніла мімалётнымі ўспамінамі. Усё гэта было калісьці…

Навучаная па-новаму жыць, Аксана не парушыць свой намер, бо ведае яго кошт, ведае дакладна, праз што давялося прайсці, каб наноў хадзіць, смяяцца і, нарэшце, кахаць. Думала, што не зможа больш пакахаць адкрыта, але змагла. Праўда, боязна было спачатку адкрываць усе таямніцы душы, якой зусім нядаўна абрэзалі крылы, ды шчырасць каханага ўзяла верх над яе дарэмнай баязлівасцю, пераадолеўшы страх і зруйнаваўшы сляды мінулага. Толькі цяпер, параўноўваючы двух розных чалавек, яна пачала адгукацца на тое каханне, як сляпое, аднабаковае і непатрэбнае нікому. Усё рабіла сама за дваіх: і кахала, і чакала сустрэчы з іскрынкамі летуценнасці ў вачах, і цешылася цеплынёй абдымкаў, і ажыўляла размовы падчас ранімага маўчання. Цяжка было без узаемазбліжэння, узаемаразумення, узаемападтрымкі, без узаемнасці ўвогуле. Але ж выжыла, ажыла, перахварэла пасля невыноснага і немінучага адчужэння.

Немагчымае стала магчымым, недасяжнае — дасяжным, а нездзяйсняльнае — здзяйсняльным. Вынаходлівасць выратавання была навідавоку, яна хацела быць схаванай, быць неразгаданай тайнай, яна проста вяла гэтую гульню ўадкрытую. Інсцэніраваць і разыгрываць сцэны дзеля помсты не было намеру, бо шмат што зразумела, пераацаніла ўсур'ёз. Яна іншая, ужо зусім не тая, якой была, і зноў жа просіцца слова… «калісьці».

А цяпер, незалежная, упэўнена наперад.

Калі апынуліся адно каля аднаго, на вуснах Аксаны ўздрыгнула не найграная, не фальшывая, а самая што ні ёсць сапраўдная і лёгкапранікальная ўсмешка, на яго ж вуснах — пагасла, саступіўшы месца разгубленасці.

***P. S.*** *Прайшлі моўчкі ў процілеглых напрамках, па адасобленых маршрутах, яна — без аглядкі, ён — з аглядкай, нібыта просячы ўслед нявыказанага і запозненага прабачэння.*

# Мой Karaткевіч

## Горкі рамантызм

Я помню даўжэзную нервовую чаргу ў «Кнігарню пісьменніка» за томікам «Чорны замак Альшанскі» з шыкоўнымі ілюстрацыямі Пятра Драчова, з пачаткам рамана «Зброя»... Памятаю двухтомнічак у брунатнай вокладцы з залатымі літарамі, у якім прачытала «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і пасля доўга малявала партрэты «Мужыцкага Хрыста», вандроўнага філосафа Юрася Братчыка... Помню патрапаную бібліятэчную кнігу «Вока тайфуна» і невялікую квадратную «Быў. Ёсць. Буду...».

Я ўпершыню ў жыцці купіла часопіс «Маладосць», таму што ў ім была надрукаваная п'еса Уладзіміра Караткевіча пра Крычаўскае паўстанне — і памятаю, як саромелася і баялася перад кіёскам і адчувала сябе ледзь не рэвалюцыянеркай. Бо ў маім асяродку ніхто беларускіх літаратурных выданняў аніколі не купляў, і гэта было нібыта нейкім небяспечным дзівацтвам...

Дзякуючы Караткевічу я пачала пісаць вершы на беларускай мове — пакутліва ўспаміналіся, прыходзілі словы, нібыта руйнавалася нейкая шкляная сцяна, якая аддзяляла мяне ад сапраўднага свету (беларусы ж існуюць у няправільным, штучна створаным свеце «Матрыцы»).

«Чырвоную альбо сінюю пігулку ты выбіраеш, Нэа?» — пытаюцца такія, як Караткевіч.

Ты можаш выбраць бяспечную пігулку, чытаць Данцову і Каэльа ў перакла-дзе на рускую і жыць у зоне камфорту, дзе ўсе гавораць на агульназразумелай мове і любяць «нашага Пушкіна».

А проста жыць не атрымліваецца, бо табе паказалі тысячы вартых высакародных герояў, якія аддавалі жыццё дзеля ўратавання беларускага свету і дзеля таго, каб ты аднойчы расплюшчыў вочы і пабачыў сваю сапраўдную Беларусь.

У Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве на іспыты я ехала з томікам «Нельга забыць», які чытала замест падручнікаў у цягніку, а прыехаўшы на месца, знаходзіла эпізоды, дзеянне ў якіх адбывалася там. Пляц Маякоўскага, Цвярскі бульвар, літінстытутаўскі дворык...

Я памятаю ўсе свае кнігі з творамі Караткевіча — бо яны суправаджалі мяне паўсюль. Усе мае знаёмыя ведалі пра гэтае захапленне, той-сёй нават падзяліў яго.

А самога пісьменніка я не бачыла ні разу.

Мне ў галаву не прыходзіла, што можна вось так узяць — і заявіцца да гэтай неверагоднай, звышнатуральнай істоты, якая жыве ў свеце Барвовага Уладара і Дзікага Палявання... Хто — Ён, і хто — я, маладзенькая навучэнка архітэктурна-будаўнічага тэхнікума з фарбаванымі цёмна-брунатнай памадай вуснамі, са спісаным максімалісцкімі вершыкамі сшыткам?

Мне дастаткова было ведаць, што Ён ходзіць па вуліцах майго горада, што Ён дзесьці побач... І калі-небудзь, калі я напішу штосьці вартае, я непазбежна мушу з Ім пазнаёміцца...

Ты чула? Памёр твой Караткевіч... — сказала стрыечная сястра.

Мой свет, вядома, скалануўся.

Падчас нашых студэнцкіх пасядзелак у кавярнях я абавязкова напачатку падымала філіжанку кавы альбо келіх шампанскага за Уладзіміра Сымонавіча, з чым сябры змірыліся, як з маім чарговым дзівацтвам...

Але паколькі я ніколі не бачыла самога пісьменніка, яго знікненне было для мяне гэткім самым віртуальным, як быў ён сам пры жыцці. Я па-ранейшаму дзесьці ў глыбіні душы верыла, што Ён працягвае хадзіць паралельна са мной вулкамі Мінска... У суправаджэнні Андрэя Грынкевіча, Антона Касміча, Андрэя Беларэцкага, Алеся Загорскага (інтэлігенцкая такая кампанія), а Гервасій Выліваха з Юрасём Братчыкам увесь час адлучаюцца, каб прапусціць келіх піва ў яшчэ адной піўнушцы на рагу... А Арахна бегае па шурпатых шэрых сценах дамоў па Карла Маркса, трапляючы час ад часу калматай лапай у чыюсь адчыненую фортку...

Часам я думаю, мо гэта і добра, што я ніколі не сустракалася з Караткевічам? Пасля я шмат чытала ўспамінаў пра яго і бачыла шмат дакументаў, размаўляла з ягонымі сябрамі і выпадковымі знаёмымі... Калі людзей прабівае на шчырасць, прызнаюцца, што класік у побытавых зносінах быў не дужа лёгкім і не самым прыемным чалавекам. І знешнасць ягоная далёка не ва ўсіх выклікала сімпатыю.

Мне, напрыклад, на фотаздымках ён не падабаўся.






Гавораць, мог быць рэзкім, з'едліва пажартаваць альбо збянтэжыцца, замкнуцца ў сабе, зазлаваць... Хто ведае, якім менавіта я б Яго пабачыла? Але дакладна не Алесем Загорскім...

«Горкі рамантызм»... Гэтак калісьці я назвала для сябе атмасферу караткевічавых твораў. Радзіма, жанчына — Прыўкрасная Дама без жалю, дзеля якой варта гінуць, але не варта чакаць спачування і славы. У герояў Караткевіча шмат ад экзістэнцыялісцкіх герояў Сартра. Змагацца да апошняга — проста праз суровае пачуццё доўгу, праз Фатум, які набывае рысы Беларусі... Ягоныя героі ніколі не вераць, што каханая можа іх палюбіць. «Я варты толькі таго, каб біцца за Яе, прыпаўзці і памерці ля ейных ног...» — разважаюць паэты і князі ў ягоных раманах і аповесцях.

Што, уласна кажучы, не перашкаджае ім урэшце класціся з каханай у ложак, над якім пачынаюць круціцца ў карагодзе зоры... І на кожную здрадніцу абавязкова знаходзіцца адданая ахвярніца... Але тут ужо сам герой будзе ўпірацца. Вось жа і добрая, і прыгожая, і кахае — а яму патрэбная іншая, жорсткая, якая раніць сэрца да крыві, не разумеючы сама, чаго хоча.

Але якой жа дзяўчынцы не хочацца кахання Рыцара!

«Добры класік — мёртвы класік»... Гэта слушна, бо ён ужо не можа з магілы ні разбурыць уражанне ў захопленага чытача п'яным выбрыкам, ні запярэчыць крытыку, што грувасціць галаваломныя акрабатычныя канструкцыі на плечы чужога твора, ні даць у пысу (а Караткевіч мог!) маладому нахабнаму постмадэрністу, што выкрыўляе з ягоных герояў смешных звыродцаў...

Ён такі паслухмяны і зручны, мёртвы класік...

А ён проста плыве ў іншай прасторы, дзе непазбежна адпадуць з цягам часу наліплыя ракавінкі і водарасці з цела вялікага карабля.

І як падумаю, што Караткевічу — усяго восемдзесят пяць! Ну крыўдна ж! Ведаю не аднаго пісьменніка, які ў такім узросце яшчэ плённа працаваў. Што б вялікі рамантык ні напісаў у «дадатковы час» — гэта проста не магло быць кепска, ён не ўмеў пісаць кепска. Мне, напрыклад, шкада, што ён не дажыў да таго часу, калі разбурыліся савецкія стэрэатыпы, якія ўсё-ткі адчуваюцца ў ягоных творах: увесь гэты ваяўнічы атэізм, шляхта — прыгнятальнікі, а правадыры сялянскіх паўстанняў — гэткія бездакорна-рамантычныя Жэлябавы і Соф'і Пяровы... Да згаданых гістарычных персанажаў, дарэчы, Караткевіч, як пісаў у анкеце, хацеў бы прыпадобніцца ажно да іхняй пакутніцкай смерці.

Многія пісьменнікі, якія перажылі перабудову, інакш зірнулі на рэлігію і класавую барацьбу. Упэўнена, што Караткевіч, які меў шляхецкія карані, таксама пазбавіўся б многіх акцэнтаў, што мусілі прысутнічаць у савецкага пісьменніка.

Ён усё-ткі быў найперш беларускім, нацыянальным пісьменнікам. Рамантыкам.

Таму яго і любім.

І, ведаеце, у мяне ўсё-ткі ёсць трывалае адчуванне — што я з ім сустракалася. З маім Уладзімірам Караткевічам.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

## Дзякуй, што жывы

Не зацікавіцца асобай і творчасцю Уладзіміра Караткевіча ў прынцыпе цяжка. У маім выпадку сітуацыя ўскладнялася тым, што я нарадзіўся на мінскай вуліцы Караткевіча (як ні дзіўна, пра тое, што гэта быў іншы Караткевіч, я даведаўся дужа позна, гадоў у 12, калі на вуліцы павесілі адпаведную мемарыяльную шыльду).

У нашым доме было тры кнігі на беларускай мове: «Міколка-паравоз» Лынькова, выданне «Чорнага замка Альшанскага» і «Зброі» 1984 года і 6-ы ды 7-ы тамы збору твораў, дзе «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Дзікае паляванне караля Стаха». Таму асаблівага выбару ў мяне і не было. «Чорны замак...», калі не памыляюся, упершыню спрабаваў чытаць ужо ў восем гадоў — натуральна, мала што разумеючы. «Хрыстос...» заходзіў яшчэ горш: яго я кінуў адразу.

Мышы плакалі, калоліся, але есці кактус не кінулі. «Дзікае паляванне…» і «Каласы пад сярпом тваім» як мае быць я чытаў ужо ў чатырнаццаць, і ў выпадку з «Каласамі...» гэта быў першы раз, калі кніжку чытаў уночы, ад другой да восьмай гадзіны. Пазней я ад многіх чуў, што «Каласы...» — кніга магічная, і менавіта яна ўражвае наймацней. Цяпер з пераважнай большасцю выказаных у творы поглядаў і ацэнак я не магу пагадзіцца, але гэта не адмаўляе неабходнасці таго, першага, прачытання. Хаця сёння больш люблю «Хрыста...», якога перачытваў разоў пяць.

> *Ранні сыход і прыжыццёвая схільнасць да самаміфалагізацыі спрычыніліся да таго, што мы дагэтуль не верым, нібы Караткевіча няма, і не хочам адпускаць ад сябе. А ён, здаецца, і не супраць.*

Працягвалася ўсё ў студэнцкія гады ледзь не штодзённымі вячоркамі ў двары пісьменніцкага дома на рагу Маркса і Энгельса, дзе Караткевіч, кажуць, хацеў пасадзіць яблыневы сад. Усё гэта вылілася ў вершы: «Валодзя Караткевіч на беразе Дняпра» і «Паштоўка ад моладзі». Гуляць цікава ў тое, чаго няма, таму ў гэтых тэкстах няма такога Караткевіча, да якога ўсе прывыклі: у першым вершы мы бачым яго дзіцём, а ў другім — фактычна, жывым у нашыя дні. Ранні сыход і прыжыццёвая схільнасць да самаміфалагізацыі спрычыніліся да таго, што мы дагэтуль не верым, нібы Караткевіча няма, і не хочам адпускаць ад сябе. А ён, здаецца, і не супраць.

Найлепшы доказ таму — апублікаваны нядаўна дзённік з шасцідзясятых.

Хто з творцаў, маладых і не вельмі, не пазнае тут сябе? Сябры, хоць і сябры, ва ўсім вінаватыя і зусім не маюць рацыі. У вандроўцы добра, але хочацца дадому. Час, хоць і намагаешся нешта зрабіць, незваротна сплывае ў нікуды. Лета мінае, а я не адпачыў. І раптам між усіх гэтых сумненняў, штодзённых клопатаў і сустрэч з сябрамі: «4-га ўстаў рана, выбіў з сябе ўсё халодным душам і сеў пісаць. Напісаў пачаты напярэдадні «Як сканаю — душа застанецца».

### Валодзя Караткевіч на беразе Дняпра

*Вецер хмары па небе ў сумёты збіраў,*
*і яны застывалі ў маўклівым спакоі.*
*Сумны хлопчык сядзеў на адхоне Дняпра,*
*а краіна драмала ў снягах за ракою.*

*«Бог пакінуў яе. Пэўна, з дзесяць вякоў,*
*як забыўся і думаць аб нашай радзіме,*
*дзе не тое што цмокаў — няма й ветракоў,*
*ані Донаў Кіхотаў, каб біліся з імі.*

*Ён пайшоў і пакінуў нас з ёю саміх —*
*дык на чорта малітвы да гэткага Бога?»*
*Раптам снег прыпыніўся і вецер заціх —*
*Бог схіліўся і сумна глядзеў на малога.*

*І пакуль феерверкі ляцелі ў гару*
*і клалося ў снапы пад сярпамі калоссе,*
*ён пайшоў — і адзін нарадзіў Беларусь.*
*І для першага разу — някепска ўдалося.*

***2009***

Нават дзённік у яго — як аповесць, што напрошваецца на экранізацыю. Але гэта ўсё яшчэ наперадзе.

**Антон РУДАК**

# «Для мяне ён заўсёды быў найвялікшым...»

**Год прыходу Уладзіміра Караткевіча ў літаратуру — 1955-ы — адметны дзвюма яго публікацыямі — гэта эсэ-нарыс «Вязынка» і балада «Машэка».**

Абодва творы нітуюцца з вобразам Янкі Купалы: у першым — апісанне калыскі, месца, якое «нарадзіла» паэта; у другім — інтэрпрэтацыя постаці легендарнага героя, да якога звяртаўся Янка Купала ў паэме «Магіла льва». Магчыма, гэта ўсяго толькі збег абставін, але і ў такім выпадку толькі пацвярджаецца думка, што выпадковасці ў жыцці таленавітых асоб становяцца заканамернасцямі і ў далейшым вызначаюць іх творчы шлях.

Эсэ-нарыс «Вязынка» ўзнік пасля таго, як два сябры-аршанцы — студэнт Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі Уладзімір Караткевіч і студэнт Беларускага політэхнічнага інстытута Валянцін Кравец — наведалі ў канцы чэрвеня 1952 года радзіму Янкі Купалы. Напісаўшы нарыс, Караткевіч даслаў яго з суправаджальным лістом Уладзіславе Францаўне, жонцы паэта. Яна ўключыла гэты тэкст у кнігу «Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта» (1955).

Рыхтуючы да выдання 12-ы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча (у яго будуць уключаны якраз эсэ-нарысы), я вырашыў больш дэталёва раскрыць гісторыю напісання твора. І вось, дзякуючы дапамозе супрацоўнікаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, трымаю ў руках ліст Караткевіча да Уладзіславы Францаўны.

*Шаноўная Уладзіслава Францаўна!*

*Некалькі дзён таму я быў у Вязынцы, і незабыўныя ўражанні, якія я атрымаў ад хаткі і ад радзімы вялікага нашага паэта, былі такімі хвалюючымі і моцнымі, што я запісаў іх.*

*Спачатку думаў быў надрукаваць іх, але гэта зрабіць цяжка і напісалася нешта слабей за тое, што адчуваў. І тады я вырашыў надаслаць іх Вам, бліжэйшаму да яго чалавеку, каб Вы ведалі ўсю тую вялікую-вялікую пашану і любоў да яго, якая поўніць сэрца ўсякага яго чытача ў Беларусі і не ў Беларусі.*

*Для мяне ён заўсёды быў найвялікшым, і, можа, хоць гэтыя слабыя радкі Вам пакажуць тое, што хацелася б сказаць яму.*

*Шмат чуў у Вязынцы аб Вашых прыездах туды, аб дапамозе, і з таго яшчэ болей стаў Вас паважаць, добры таварыш яго.*

*Бывайце.*

*» Уладзіслава Францаўна захавала і ліст, і твор — разгледзела ў ім пробліскі таленту. Нейкі невядомы ёй чалавек невядомых заняткаў, невядомай адукацыі і невядомага ўзросту даслаў «Уражанні ад паездкі ў Вязынку» (назва на папцы машынапісу), і гэтая мудрая жанчына, «добры таварыш» Купалы, дае пуцёўку ў жыццё новай асобе на беларускім літаратурным небасхіле — Уладзіміру Караткевічу.*

Паказальна, што ліст завяршаецца подпісам, а цалкам звесткі (хаця б імя і прозвішча), відаць, былі пазначаныя на канверце. У лісце няма ніводнай згадкі пра аўтара (у самім творы названа толькі месца напісання — Орша). Аднак Уладзіслава Францаўна захавала і ліст, і твор — разгледзела ў ім пробліскі таленту. Нейкі невядомы ёй чалавек невядомых заняткаў, невядомай адукацыі і невядомага ўзросту даслаў «Уражанні ад паездкі ў Вязынку» (назва на папцы машынапісу), і гэтая мудрая жанчына, «добры таварыш» Купалы, дае пуцёўку ў жыццё новай асобе на беларускім літаратурным небасхіле — Уладзіміру Караткевічу.

Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта — спецыфічнае, набліжанае да навуковага выданне. Таму Уладзіслава Францаўна не толькі робіць у тэксце стылёвыя праўкі, але па волі абставін і скарачае яго. Гэта ўсё ж не зніжае вартасці надрукаванага ў 1955 годзе твора.

Але для аматараў творчасці Караткевіча, для даследчыкаў важна ведаць увесь твор. Таму ў тэксце 12-га тома будуць вернутыя наступныя (здаецца, канцэптуальна важныя) фрагменты.

Пасля сустрэчы з дзяўчынай, у якой сябры пытаюцца пра дарогу да Вязынкі, Караткевіч адзначае: «Мы, выгадаваныя ўсходняй Белай Руссю, якая працягнулася па берагах Дняпра, ніколі не чулі такой чыстай і музычнай мовы».

А вось метафарычна апісваецца жыццё Купалы:

«Усё яго жыццё — адвечная барацьба, спачатку супроць гора ўсёй Радзімы, потым супроць гора заходняй часткі яе, а потым зноў за ўсю Беларусь — Беларусь бязмернай пакуты і бязмернай ярасці.

І ўсё яго жыццё — гэта вера. Запамятайце, гэты чалавек верыў у народ, у тое, што яму суджана шчасце, у тое, што моцныя рукі яго і светлы розум даб'юцца свайго».



*Чарговая вандроўка ў Вязынку. У. Караткевіч, Р. Барадулін, будучая жонка паэта Валянціна і інш. 1957 г.*

У зборніку твор заканчваецца словамі: «Бывай, Вязынка!» У рукапісе ж працягваецца роздум маладога чалавека пра тое, што пакуль няма праху паэта на Радзіме:

«Непадалёку ад Радашковіч, на поўдзень, ёсць гара Маяк — адна з найвышэйшых кропак Беларусі. Высока ўздымаецца яна над абшарамі, над крыштальнымі рэкамі і азёрамі, над пушчамі і карпусамі заводаў, над гарадамі і вёскамі, над усім, што створана на ёй чалавечымі рукамі.

Там, вышэй за ўсё, я зрабіў бы яго магілу і паставіў бы бачны здалёк помнік. Найвялікшаму месца на найвялікшым, дзе шмат абшару і ветру.

Хай гара Маяк будзе маяком не толькі па назве».

Першынец Караткевіча, эсэ-нарыс «Вязынка», названы так Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч, ёсць той грунт, аснова, на якой у далейшым узрасла ўся яго творчасць. Невыпадкова ў лісце да Купаліхі пасля апублікавання твора ў 1955 годзе Караткевіч назваў яе «хросная маці».

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ**

# Яны сустрэліся ўлетку 1955-га...

Калі Караткевіч, тады яшчэ настаўнік вясковай школы на Кіеўшчыне, прыехаў на VI Рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў у Мінск. Аднак сустрэцца на самой нарадзе не атрымалася: Брыль вярнуўся з Нарачы, калі тая ўжо скончылася.

Лёсавызначальная сустрэча адбылася крыху пазней, у кнігарні, дзе Караткевіч, па словах Брыля, звярнуў на сябе ўвагу «маладым, свабодна гучным беларускім голасам у размове з прадаўшчыцамі, і колькасцю купленых кніг, і сваім адметным выглядам высока-танкалявага юнака». Яшчэ да гэтай сустрэчы Брыль паспеў пачуць пра Караткевіча «як пра найцікавейшага сярод маладых». Тады ў Караткевіча з'явілася і першая падпісаная Брылём кніга — «У Забалоцці днее». Праўда, з гэтым творам ён пазнаёміўся яшчэ ў час вучобы ў Кіеўскім універсітэце, калі адзін з украінскіх часопісаў замовіў артыкул пра Брыля. «Не памятаю, ці быў той артыкул надрукаваны. Памятаю толькі, што хваліў. Не таму, што на сто працэнтаў падабалася, а таму, што з усяго напісанага тады на гэту тэму — «Забалоцце» рэзка вылучалася. Былі жывыя людзі, абставіны, пейзажы».



Дзіўная гісторыя адбылася ў далёкім 1946 годзе. Караткевіч напісаў трагедыю і галоўнага героя назваў Янка Брыль, хоць ніякага Брыля і нават яго твораў яшчэ і ведаць не ведаў. «Ходзіць па старонках маёй трагедыі нейкі асобны, зусім непадобны Янка Брыль, нават, здаецца, удавец», — згадваў ён пазней.

Янка Брыль быў старэйшы за Караткевіча на трынаццаць гадоў. Розніца была не толькі ў гадах, але і ў характары. Эмацыянальны, у любы момант гатовы не толькі шчыра ўзрадавацца, але і заплакаць — Караткевіч. Спакойны, разважлівы — Брыль. Яны разумелі адзін аднаго з паўслова. Абодва мелі прыгожыя галасы, любілі спяваць і падарожнічаць, валодалі цудоўным пачуццём гумару. Караткевіч адзначаў: «Аднойчы, прыехаўшы ўжо з Оршы, я заначаваў у яго, і тут мы перагаварылі адной з тых шчырых, бадай, толькі славянскіх, размоў, калі са здзіўленнем і раптоўнай гарачнасцю заўважаеш, што думаеш аднолькава з іншым, што словы аднаго падхапляе другі, не чакаючы нават канца выказанай думкі, бо яна, як свая. І самае важнае — аднадумства ў дужа важлівых для сябе рэчах. Такіх глыбокіх і часам балючых, што аб іх не скажаш і брату».

У адной са шматлікіх вандровак да іх далучыўся Рыгор Барадулін. Тады ўзнікла задума напісаць сумесны твор, але, на жаль, яна так і засталася задумай. Як патлумачыў сам Брыль, «на скрыпцы ў тры рукі не іграюць».

Пра іх сяброўства Адам Мальдзіс пісаў: «Да свайго старэйшага сабрата Валодзя адносіўся часам крыху задзірліва («як малады певень»). Але той нязменна адказваў паблажлівасцю… Пасля вечара разам са Сцяпанам Міско і геолагам Віктарам Лапуцем («бацькам беларускай нафты») пайшлі ў кафэ, што адчынілася ў Доме мастацтваў (з лёгкай рукі Барадуліна яго ахрысцілі «мутным вокам»). Зусім блізка сядзелі Брыль з Карамазавым і нейкім госцем з Сібіры. Міско гучна, каб чуваць за суседнім столікам, правакаваў Караткевіча:

— Хто вышэйшы, ты ці Брыль?

— Вядома, ён.

— А хто таленавіцейшы?

— Вядома, я. Каму ж пахваліць, як не самаму сябе!?

На гэта Брыль:

— Самае смешнае, што і я так лічу!»

Дробныя ўзаемныя «шпількі» і «шпілечкі» не перашкаджалі іх дружбе.

Янка Брыль меў непасрэднае дачыненне да выдання аднаго з самых папулярных твораў Караткевіча — «Каласы пад сярпом тваім». Як адзначае Мальдзіс, па сваёй сціпласці Брыль не казаў, што ў тым «пераломным» 1967 годзе і ён нямала спрычыніўся да таго, каб «Каласы…» выйшлі асобнай кнігай.

Лірычная, сакавітая, дасціпная мова Брыля была прыкладам для Караткевіча. «Адчуў, якая дубовая ў мяне мова, як бракуе трапных дэталяў, як мала гумару і дасціпнасці, чаго ў Вас — хоць завалiся», — пісаў Караткевіч у лісце да сябра.

Ён прысвяціў Брылю апавяданне «Барвяны шчыт» (1963) і верш «Бахайская чарапаха» (1965), да 50-годдзя сябра было прымеркавана эсэ «Мой друг і мая зямля» (1967). У знакамітым нарысе «Зямля пад белымі крыламі» (1971, 1976) Караткевіч высока ацэньваў творчасць Брыля. Той, у сваю чаргу, часта згадваў таварыша ў лірычных запісках. На гадавіну яго смерці Брыль напісаў эсэ «Наш Караткевіч» (1985). Асобнае месца займае перапіска пісьменнікаў, якая доўжылася з 1958 па 1983 год.

Янка Брыль да скону сваіх дзён будзе ўзгадваць таленавітага, шчырага сябра, які так рана пайшоў з жыцця: «Беларусь даўно чакала такога пісьменніка. І радасна, што ён прыйшоў. І горка, балюча, што ён не змог, не паспеў разгарнуцца яшчэ больш глыбока і шчодра».

**Вікторыя АНДРЫЕВІЧ**

# …І творчыя студыі

**Важкія набыткі за дзесяць гадоў творчага жыцця Саюза пісьменнікаў Беларусі назбірала Мінскае гарадское аддзяленне. Сёння ў ім 304 творцы. З чым падыходзяць да ўрачыстай падзеі сталічныя літаратары?**



У снежні 2005 года, калі быў створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі, у склад МГА СПБ уваходзілі 44 пісьменнікі. За дзесяцігоддзе сябрамі аддзялення створана больш як тысяча кніг і брашур. На творчым рахунку — больш як 50 тысяч сустрэч.

Узнагародамі адзначаны творы празаікаў Мікалая Чаргінца, Георгія Марчука, Уладзіміра Гніламёдава, Уладзіміра Саламахі, Наталіі Касцючэнка, Анатоля Казлова, Віктара Праўдзіна, Мікалая Ільінскага, паэтаў Генадзя Пашкова, Уладзіміра Карызны, Міхася Башлакова, Васіля Макарэвіча, Анатоля Аўруціна, Валянціны Паліканінай, дзіцячых пісьменнікаў Міколы Чарняўскага, Алеся Бадака, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Ліпскага, краязнаўца Анатоля Статкевіча-Чабаганава, публіцыстаў Міхаіла Шыманскага, Алеся Марціновіча, Уладзіміра Вялічкі, Васіля Шырко, літаратуразнаўцаў Івана Саверчанкі, Міколы Мікуліча, Дзяніса Марціновіча, Пятра Радзечкі, перакладчыкаў Івана Чароты, Уладзіміра Скарынкіна, Міколы Мятліцкага ды іншых творцаў, якія працуюць у самых розных жанрах.

Сталічныя літаратары штогод удзельнічаюць у міжнародных фестывалях паэзіі, Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, Нацыянальным фестывалі песні і паэзіі ў Маладзечне, Дні беларускага пісьменства, у святах паэзіі — купалаўскім у Вязынцы і багдановіцкім у Ракуцёўшчыне, Каласавінах, Днях праваслаўнай культуры і г. д. Рэгулярна ладзяцца Мінскія паэтычныя чытанні (іх пастаянная пляцоўка — Цэнтральная мінская гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы) і фестывалі маладой паэзіі, прэзентацыі кніг сяброў МГА СПБ, «круглыя сталы» і канферэнцыі… У сталічных школах і Доме літаратара праходзяць урокі мужнасці.

МГА СПБ падтрымлівае цесныя стасункі з Цэнтрам расійскай навукі і культуры, культурна-дзелавым цэнтрам «Дом Масквы», Цюменскай рэгіянальнай і Маскоўскай гарадской пісьменніцкімі арганізацыямі ды Санкт-Пецярбургскім аддзяленнем саюза пісьменнікаў Расіі, з Саюзам пісьменнікаў Дагестана, турэцкай грамадскай арганізацыяй «Дыялог Еўразія», супрацоўнічае з Камітэтам па адукацыі ды галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім аддзяленнем БРСМ, упраўленнем ідэалагічнай работы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

Сярод творчай моладзі праводзяцца літаратурныя конкурсы. З 2011 года выпускаем кнігі серыі «Мінскія маладыя галасы». Далучаем юных аўтараў да ўдзелу ў літаратурных святах, прэзентацыях кніг, заснавалі «Школу юнага празаіка» (кіраўнік Наталія Касцючэнка) і «Школу юнага паэта» (кіраўнік Міхась Пазнякоў), стварылі сетку студый маладых твораў пры бібліятэках, гімназіях, школах. Штогод сумесна з Фундаментальнай бібліятэкай БДУ праводзім літаратурны конкурс сярод усіх факультэтаў універсітэта «Славянскі калейдаскоп», семінар юных аўтараў. Заснавалі штогадовую літаратурную прэмію МГА СПБ «Адкрыццё». Найбольш таленавітых маладых аўтараў накіроўваем на міжнародныя і рэспубліканскія конкурсы. Пераможцамі і лаўрэатамі такіх сталі Маргарыта Латышкевіч, Людміла Клачко, Кацярына Массэ, Ганна Мартынчык, Таццяна Купрыянец. Акрамя таго, дапамагаем маладым рэдагаваць, публікаваць іх творы ў перыядычных выданнях, зборніках, асобнымі кнігамі, кансультуем па ўсіх пытаннях. Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры падрыхтавалі і выдалі анталогію маладой паэзіі Беларусі «Мы — маладыя», у якой прадстаўлена 165 паэтаў.

Наладжаны цесныя творчыя кантакты са шматлікімі літаратурнымі аб'яднаннямі — універсітэцкімі, школьнымі і г. д. Многімі кіруюць нашы пісьменнікі: у БНТУ — Андрэй Цяўлоўскі («Палітэх»), пры дзіцячай бібліятэцы № 2 — Тамара Залеская («Акорд»); пры Цэнтральным Доме афіцэраў — Яўген Каршукоў («Доблесць»), пры Доме ветэранаў — Вольга Сакалова («Натхненне»), пры Мінскім ваенным суворaўскім вучылішчы — Міхась Башлакоў («Да-зор»), пры гімназіі № 25 — Вольга Шпакевіч («Крынічка») і г. д.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Песняры ў цютчаўскім краі

**На Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая прайшла ў Бранску і была прысвечана такім тэмам, як «Міжкультурная камунікацыя і дыялог культур», «Культурна-моўная прастора як аснова фарміравання моўнай асобы ў сучасным свеце» ды іншым пытанням мовы і літаратуры, Беларусь прадстаўляла наша зямлячка, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі Тамара Краснова-Гусачэнка.**



З прывітальным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, што сабрала ў Хрустальнай зале Урада Бранскай вобласці прадстаўнікоў дыяспар Арменіі, Беларусі, Малдовы, Гагаузіі, Украіны, Узбекістана ды іншых краін СНД, звярнуліся губернатар Бранскай вобласці Аляксандр Багамаз, старшыня Бранскай абласной Думы Уладзімір Папкоў, Галоўны федэральны інспектар па Бранскай вобласці Міхаіл Калашнікаў ды Мітрапаліт Бранскі і Сеўскі Аляксандр. Уступнае слова вядучага канферэнцыі — рэктара Бранскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя акадэміка І. Г. Пятроўскага, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка вышэйшай школы Расійскай Федэрацыі Андрэя Анцюхова было прысвечана тэме «Руская мова — аснова міжнацыянальных зносін».

Судакладчык пленарнага пасяджэння Т. Краснова-Гусачэнка пачала сваё выступленне на тэму «Узаемапранікненне рускай і беларускай літаратур, уплыў білінгвічнасці сацыяльнай сферы на развіццё нацыянальнай літаратуры» з прадстаўлення вялікай падборкі перакладаў уласных вершаў з рускай мовы на беларускую, па-майстэрску выкананых кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Міколам Шабовічам і апублікаваных напярэдадні канферэнцыі на старонках «ЛіМа». Т. Краснова-Гусачэнка падарыла арганізатарам канферэнцыі кнігу паэзіі «Сустрэча», сёлета адзначаную Нацыянальнай літаратурнай прэміяй.

Зараджаныя эмацыянальнай прамовай аб цесным узаемапранікненні беларускай і рускіх літаратур, паэзіяй на роднай мове, прадстаўнікі шматлікіх СМІ і члены беларускай дыяспары ў Расійскай Федэрацыі, якая, дарэчы, у Бранскай вобласці асабліва шматлікая, актыўна дзяліліся сваімі ведамі ў галіне беларускай паэзіі, успамінаючы найбольш хвалюючыя радкі. Кранальна, эмацыянальна і шчыра гучалі ў выкананні ўдзельнікаў міжнароднай канферэнцыі вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа ды іншых беларускіх лірыкаў на радзіме рускіх творцаў Фёдара Цютчава і Аляксея Талстога.

**Ларыса ІВАНОВА**

# Сустрэчы ды стасункі

**Блізіцца адметная дата — 10-гадовы юбілей Саюза пісьменнікаў Беларусі. Да святочнага пленума рыхтуецца і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ, у складзе якога сёння 34 пісьменнікі. Гэта амаль утрая больш, чым на момант яго стварэння: пры канцы 2005-га аддзяленне налічвала 12 чалавек.**



Са снежня 2005 года выйшла 120 кніг членаў абласной арганізацыі. У серыі «Магілёўшчына літаратурная» выдаецца альманах «Прыдняпроўе». Пісьменнікамі рэгіёна праведзена звыш дзевяці тысяч творчых сустрэч.

Сумесна з іншымі творчымі арганізацыямі, установамі культуры і адукацыі, Магілёўскай абласной арганізацыяй рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства “Веды”» штогод праводзяцца літаратурныя чытанні імя Максіма Гарэцкага, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна, Канстанціна Сіманава, Івана Чыгрынава. На малой радзіме Аркадзя Куляшова, Івана Чыгрынава, Алеся Пісьмянкова ў Касцюковіцкім раёне праходзяць святы паэзіі, у межах якіх праводзяцца паэтычныя вечарыны, сустрэчы творцаў Магілёўшчыны з чытачамі, літаратурныя конкурсы, прэзентацыі новых кніг сяброў СПБ. У межах літаратурнага календара «Юбіляры месяца» ў бібліятэках вобласці ладзяцца кніжныя выстаўкі, чытацкія канферэнцыі і г. д.

Трывалыя сувязі ўсталяваліся ў абласнога пісьменніцкага аддзялення са Смаленскай абласной арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Расіі. Сёлета, да прыкладу, сумесна праведзены Міжнародны літаратурны конкурс, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Канстанціна Сіманава і 70-годдзю Вялікай Перамогі.

Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі працуе ў цесным кантакце з галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама. Цесныя творчыя стасункі наладжаны з Магілёўскай абласной арганізацыяй рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства “Веды”», Магілёўскім абласным грамадскім аб'яднаннем «Рускі Дом», Магілёўскім гарадскім аддзяленнем Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства», Магілёўскім гарадскім грамадскім аб'яднаннем «Рускае культурна-асветніцкае таварыства».

Уладальнікам Рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» за лепшы твор 2012 года (а гэта кніга нарысаў «Зямля Магілёўская», выдадзеная Магілёўскай абласной друкарняй імя Спірыдона Собаля) у намінацыі «Краязнаўства» прызнаны магілёўскі празаік Мікалай Барысенка. Заснавана літаратурная прэмія Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ, якой адзначаюцца аўтары лепшых кніг года. Яе лаўрэатамі сталі паэты, празаікі і публіцысты Аляксандр Цераха, Іван Пехцераў, Васіль Рагаўцоў, Мікалай Барысенка, Мікалай Давідовіч, Віктар Арцем'еў, Мікалай Леўчанка, Ніна Кавалёва, Мікалай Мінчанка, Яўген Соцікаў, Мікалай Падабед, Святлана Басуматрава. Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ актыўна супрацоўнічае з літаратурнымі аб'яднаннямі, створанымі пры навучальных установах, установах культуры, рэдакцыях газет вобласці. Літаратурнымі аб'яднаннямі кіруюць члены нашага пісьменніцкага аддзялення Аляксандр Цераха (г. Магілёў), Мікола Мінчанка (г. Клімавічы), Мікола Падабед (г. п. Бялынічы), Мікола Салаўцоў (г. Чавусы).

Шмат робіць Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі для дапамогі маладым літаратарам. Пры абласным пісьменніцкім аддзяленні дзейнічае секцыя па працы з маладымі аўтарамі. У літаратурнай старонцы абласной газеты «Могилёвские ведомости» наша пісьменніцкае аддзяленне пастаянна змяшчае творы маладых паэтаў і празаікаў. Творчасць пачаткоўцаў абмяркоўваецца на пасяджэннях савета нашага пісьменніцкага аддзялення. Па выніках такіх абмеркаванняў шэраг аўтараў рэкамендаваны для прыёму ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

*Паралелі*

# Вольфрам Лотц: «П’еса — дэкларацыя ўсяго на свеце»

**Вы ведаеце імёны сучасных беларускіх драматургаў? Пра што яны пішуць? Як ствараюць свае п’есы? Думаю, што тым, хто нячаста наведвае тэтр і не цікавіцца тэатральным жыццём краіны, складана адказаць на гэтыя пытанні. А як у Германіі? Ці ведаюць там імёны драматургаў па-за тэатральнымі коламі? Не так даўно Мінск наведаў Вольфрам Лотц — вядомы нямецкі драматург. Спектакль паводле яго п’есы сёлета стаў адной з дзесяці найлепшых пастановак года, а сам аўтар у апытанні тэатральных крытыкаў быў названы драматургам года. У нашай сталіцы спадар Лотц правёў майстэрню для сямі беларускіх аўтараў п’ес, арганізаваную Інстытутам імя Гётэ ў Мінску, і пагадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.**



**— Вольфрам, вы правялі майстар-клас для беларускіх драматургаў. Што новае даведаліся падчас сустрэч? А ўвогуле, ці ведалі раней нешта пра беларускую драматургію і тэатр?**

— Па праўдзе кажучы, пра беларускі тэатр я дагэтуль нічога не ведаў. Але я няшмат ведаю і пра тэатральныя культуры іншых краін. На аснове тых сямі пачаткаў драм, што былі прадстаўленыя для ўдзелу ў майстар-класе, заўважыў: структурна сучасныя беларускія п’есы не адрозніваюцца ад тых, што пішуць сёння ў Германіі. Звярнуў увагу і на тое, што беларускія драматургі пішуць у вельмі рэалістычнай манеры. Калі б у Германіі быў такі ж майстар-клас для сямі аўтараў п’ес, то ў аднаго з іх дакладна былі б часткова вершаваныя тэксты. У нас ёсць і рэалістычная манера апавядання, і больш штучная.

**— А ў цэлым, якія тэндэнцыі сёння назіраюцца ў нямецкай драматургіі? Пра што пішуць аўтары? На якія тэмы звяртаюць увагу?**

— Я адразу хацеў бы зазначыць, што мне цяжка адказваць на гэтае пытанне, бо знаходжуся ў сярэдзіне працэсу і таму не магу назіраць за ім нібыта «зверху». Напэўна, на гэтае пытанне лепш адказаў бы беларускі драматург. А ў цэлым у тэатры Германіі існуюць розныя кірункі. Ёсць проста добра сыграныя спектаклі, ёсць пастаноўкі, дзе больш увагі надаецца мове, і яна становіцца штучнай, а ёсць і постдраматычны тэатр. Існуюць розныя полюсы, і ўсё развіваецца паміж імі. Калі глядзець звонку, то можа падацца, што самая значная з’ява сёння — постдраматычны тэатр, але я б так не сказаў. Калі назіраць за працэсам знутры, то можна заўважыць: гэта не самая магутная плынь.

**— Пры напісанні п’ес ці ўлічваеце вы тое, што іх могуць выкарыстоўваць у постдраматычных пастаноўках, дзе акцёр можа не ўжывацца ў вобраз, а проста, апрануты ў паўсядзённую вопратку, чытаць тэкст?**

— Няма нейкага спецыфічнага працэсу стварэння п’есы для постдраматычнага тэатра. У нас пераважае такое паняцце, як «тэатр рэжысёра». Тая сістэма, якая існавала раней, — ёсць тэкст, напісаны драматургам, і ўсё астатняе падпарадкоўваецца яму, — сёння перакуленая з ног на галаву. Цяпер рэжысёр — галоўны, і ўсё залежыць ад яго, а не ад тэксту п’есы. Я пра гэта заўсёды памятаю, калі пішу. Я б на гэта паглядзеў крыху пад іншым вуглом. Тэатр — інстанцыя, што не падпарадкоўваецца іерархіі, тут існуе толькі свабода творчасці. Я стараюся пісаць п’есы такім чынам, каб мой тэкст кожнай сваёй гранню выклікаў рэакцыю, каб ён сам па сабе іграў. Гэта не значыць, што я імкнуся пісаць п’есы, якія лёгка паставіць на сцэне, наадварот, хачу стварыць тэкст, што будзе трансфармаваны ў працэсе пастаноўкі, будзе выклікаць неабходнасць у дыскусіі, размове ўсіх удзельнікаў творчай групы. Каб яны з ім працавалі.

> *Тэатр — інстанцыя, што не падпарадкоўваецца іерархіі, тут існуе толькі свабода творчасці. Я стараюся пісаць п’есы такім чынам, каб мой тэкст кожнай сваёй гранню выклікаў рэакцыю, каб ён сам па сабе іграў. Гэта не значыць, што я імкнуся пісаць п’есы, якія лёгка паставіць на сцэне, наадварот, хачу стварыць тэкст, што будзе трансфармаваны ў працэсе пастаноўкі, будзе выклікаць неабходнасць у дыскусіі, размове ўсіх удзельнікаў творчай групы.*

**— Якія тэмы вы звычайна ўздымаеце? Пра што пішаце?**

— Мне часта задаюць пытанне пра тэмы, але яно праходзіць крыху міма маёй творчасці, не закранае яе. Я лічу, што любы твор, любая п’еса — дэкларацыя ўсяго на свеце, а не толькі нейкай адной тэмы. Зразумела, што ў мастацтве «плаваюць» і розныя тэмы. Калі паспрабаваць спрасціць, то ў апошнім маім творы гаворка ідзе пра чужое ў цэлым. З аднаго боку, гэта глабальны пункт гледжання на паняцце, з боку эканомікі, вядзення войнаў, а з іншага — проста чалавечы.

**— У беларускай культурнай прасторы драматургія — вельмі маргінальны род літаратуры, нават менш запатрабаваны чытачамі, чым паэзія. Як гэта ў Германіі?**

— Калі казаць пра літаратуру, кнігавыданне як бізнес, то драма мусіць разглядацца асобна. Людзі, якія цікавяцца літаратурай, чытаюць, ведаюць імёны празаікаў, паэтаў, але не ведаюць імёнаў драматургаў. З іншага боку, нямецкі нацыянальны эпас — «Фаўст» Гётэ — гэта драма. І ў міжнародным аспекце вага нямецкай прозы ніколі не была вялікай, а паэзія і драма мелі важны ўплыў. Апроч гэтага, гонар нашага грамадства — добра развітая тэатральная сістэма. Думаю, што ў Германіі больш тэатраў, чым у нейкай іншай краіне. Прынамсі, мне так падаецца. Але сёння ў літаратурным аспекце нямецкая драматургія страціла сваю важнасць. Яе менш чытаюць, і гэта мае кепскі ўплыў на развіццё жанру. Думаецца, наша задача — каб драматычныя творы зноў сталі менавіта тэкстамі для чытання, а не разглядаліся толькі як сцэнарыі для будучых спектакляў. Калі драма стане моцнай, упэўненай у сабе літаратурнай формай, то і для тэатра гэта таксама будзе мець станоўчы эфект. Цікавей, карысней працаваць са складанымі п’есамі, чым з лёгкімі, простымі, якія адразу ж паддаюцца пастаноўцы.

**— А вы свае п’есы пішаце, каб іх чыталі ці каб ставілі на сцэне?**

— Думаю, на гэтае пытанне няма простага адказу. Першы падыход — задача стварыць сапраўды літаратурны твор, але гэта павінен быць тэкст, які мае на ўвазе сцэну. І ўключэнне сцэны — частка літаратурнасці п’есы. Гэтыя аспекты — сцэнічны і літаратурны — трэба не супрацьпастаўляць, а старацца, каб яны спалучаліся.

**— Вы зайздросціце раманістам, якія атрымліваюць шмат увагі чытачоў, чые кнігі выдаюцца вялікімі накладамі, а ваша імя застаецца ў цені?**

— У літаратурным бізнесе раманісты атрымліваюць шмат увагі, але гэта не значыць, што яны запатрабаваныя і ў тэатральным свеце. Учора з калегам, пісьменнікам Ніколем Любічам, мы абмяркоўвалі наклады кніг. І ў прынцыпе колькасць асобнікаў выдання можна параўнаць з колькасцю гледачоў, якія прыйшлі на спектакль. І часта іх лік тэатралаў перавышае колькасць выдадзеных асобнікаў кнігі. Калі я казаў, што тэатр разглядаецца асобна, то не меў на ўвазе, што яму надаецца менш увагі ў грамадстве. Увага такая ж самая, як да літаратуры. Магчыма, нават большая. У вялікіх газетах заўсёды абмяркоўваюцца як новыя пастаноўкі, так і новыя кнігі.

> *Сёння ў літаратурным аспекце нямецкая драматургія страціла сваю важнасць. Яе менш чытаюць, і гэта мае кепскі ўплыў на развіццё жанру. Думаецца, наша задача — каб драматычныя творы зноў сталі менавіта тэкстамі для чытання, а не разглядаліся толькі як сцэнарыі для будучых спектакляў. Калі драма стане моцнай, упэўненай у сабе літаратурнай формай, то і для тэатра гэта таксама будзе мець станоўчы эфект.*

**— Як аўтар п’есы вы нейкім чынам удзельнічаеце ў працэсе стварэння спектакля паводле яе?**

— Сапраўды, у Германіі некаторыя драматургі супрацоўнічаюць з рэжысёрамі падчас пастаноўкі п’есы. Але я для сябе вырашыў, што гэтую працу перадаручаю менавіта рэжысёрам. Я выканаў задачу — напісаў тэкст. А астатнія на яго падставе могуць працаваць незалежна ад мяне. Аднак спрабую ўсё, што магло б стаць прадметам дыялогу з рэжысёрам, акцёрамі, загадзя прадумаць і ўлічыць у тэксце, уключыць у яго. Хачу, каб камунікацыя, патрэбная, каб адбылася пастаноўка, ужо была ўключаная ў літаратурную форму.

**— Ці было такое, што рэжысёр вас няправільна разумеў?**

— Час ад часу здараецца, але гэта звычайная справа, нават падчас размовы мы, бывае, адзін аднаго няправільна разумеем. З іншага боку, пераважае верагоднасць, што ў спектаклі мой тэкст узбагаціцца, да яго дадасца нешта новае. Ёсць магчымасць, што мая п’еса набудзе новыя перспектывы, якіх я сам і не заўважаў. Калі я не буду гэтаму замінаць, не буду стаяць падчас рэпетыцый і казаць «Не рабіце гэтага!». Думаю, можна плённа працаваць разам, толькі калі мы давяраем адно аднаму, а не катралюем. Давер таксама звязаны з рызыкай: можаш і расчаравацца. Але гэта не значыць, што наступны раз ты не будзеш давяраць. Па-іншаму грамадства не функцыянуе. І тэатр таксама.

**— Уражанні, атрыманыя падчас наведвання Беларусі, нейкім чынам трансфармуюцца ў вашыя творы?**

— Думаю, рана адказваць на гэтае пытанне. Нейкія істотныя вобразы павінны яшчэ выкрышталізавацца і стаць зразумелымі толькі праз пэўны час. Калі б я зараз нешта назваў, то гэта былі б павярхоўныя рэчы, якія хутка змываюцца з памяці.

**— А ў цэлым, вы сочыце за тым, што адбываецца ў свеце літаратуры, чытаеце раманы? Якіх аўтараў можаце назваць у ліку любімых?**

— Так, сачу. І зараз мне вельмі складана называць пэўныя імёны, бо іх многа. Да прыкладу, у Швейцарыі ёсць цікавыя драматургі Каця Брунэр і Вольфрам Хёль, ёсць і празаік Доратэ Эльмігер. Усе яны ствараюць выдатную літаратуру. Я чытаю шмат. Але з-за таго, што маю дваіх маленькіх дзяцей, мушу размяркоўваць час па-іншаму. Бываюць сітуацыі, калі трэба вырашыць: чытаць ці пісаць. І, канечне, часцей за ўсё я аддаю перавагу напісанню ўласных твораў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Смешная малпа, гаварлівы гадзіннік і сіні сабачка

**Сэрца чакае цудаў. Асабліва напярэдадні навагодніх свят. Зірніце ў вокны: мітусня машын, звон трамваяў, мігценне святлафораў і рэкламных пастараў. Усе кудысьці спяшаюцца: дарослыя — на працу, хлапчукі і дзяўчынкі — у школу ці дзіцячы садок… Хоць на некалькі гадзін хочацца збегчы ад будзённасці і зазірнуць у казку. Хтосьці робіць гэта ў сне, падчас прагляду фантастычных кінастужак, а іншы — праз кнігі. Толькі на кніжных старонках, асабліва калі гэта дзіцячая літаратура, можна знайсці сапраўдную, шчырую дабрыню — і бязмежны прастор для фантазіі.**

Зборнік казак і вершаў «Як мядзведзь пчаляром стаў», які зусім нядаўна пабачыў свет у «Выдавецкім доме «Звязда», — гэта калейдаскоп новых невераголных гісторый, працяг вядомай серыі «Казачны куфэрак». Аўтары віртуозна, лёгка і тонка пераплятаюць выдумку з рэальнасцю, а мудрасць — з весялосцю. Яшчэ адна порцыя прыгод чакае сваіх чытачоў!




Вершы пра шэрага воўка, разумнага каня, фанабэрыстую лісіцу і кемлівую вавёрку ад Генадзя Аўласенкі не саступаюць сваёй мудрасцю байкам, сцвярджаючы, што хітрасцю і падманам радасці ў жыцці не набудзеш.

Тамара Бунта прапануе казку «Добрае сэрца» пра цацачнага сабачку па мянушцы Сінька, сшытага з сіняй штучнай шарсцянкі, з чорным пластмасавым носам — і гадзіннікам замест сэрца. Нават яго, пакінутага на паліцах крамы, знаходзіць шчасце. А ўсё таму, што герой не баіцца ісці да сваёй мары і робіць дабро ўсім, каго сустракае на шляху. З аповеду можна даведацца, як Сінька, што доўгі час са смуткам пазірае ў вокны са свайго пыльнага месца, аказваецца каля невядомага, але вельмі прыгожага лесу, дзе над кветкамі кружацца матылькі, у густой траве скачуць конікі, а навокал вандруюць жывёлы. І, нарэшце, сустракае свайго сябра.

Кастусь Жук распавядае дзецям гісторыю пра тое, як мядзведзь стаў пчаляром — не без дапамогі чалавека. Гэта таксама аповед пра ўзаемадапамогу, тое, чаго не хапае часам нам, прадстаўнікам зменлівага і мітуслівага веку…

Сапраўдныя іншапланецяне спускаюцца з белай планеты на старонкі кнігі дзякуючы Тацццяне Мушынскай. Не, гэта не істоты з доўгімі страшэннымі шчупальцамі і зялёнымі выцягнутымі галовамі, а такія ж, як і людзі, — з выгляду і па паводзінах, але… Уявіце: яны не носяць нічога, акрамя масіўных скафандраў са шлемамі. Затое лётаюць на спрытных талерках замест машын, а робаты выконваюць за іх усю неінтэлектуальную працу! Цэнтральным у казачнай аповесці становіцца хлопчык Максімка — яму, нібы персанажу Зорных войнаў, давядзецца адправіцца ў незнаёмую галактыку… і хутка вярнуцца дадому. Чаму? Ведаеце, чым мы адрозніваемся ад іншаземцаў? На нашай роднай Зямлі ёсць лясы і азёры, чырванабокія суніцы і мурашыныя домікі, спевы птушак і водар грыбоў… Карацей: ва утульнасці ў нас няма канкурэнтаў!

Міхась Пазнякоў вельмі ўдала супастаўляе шчырасць і сквапнасць у сімвалічнай творы «Бядняк і багацей» — пра тое, што брыльянтавую сякеру хлуснёй не здабудзеш. Пісьменнік мудра разважае і пра маладую малпачку, што пабегла спачатку за кукурузай, потым персікамі, кавунамі і, нарэшце, усё пакідала, захапіўшыся пагоняй за двума зайцамі… Як вынік — вярнулася дадому ні з чым. Праўда жыцця дэманструецца на зразумелых прыкладах, таму маленькім (ды і дарослым) чытачам будзе над чым паразважаць.

Адзін з самых атмасферных, дзіўных і сімпатычных твораў — у Алены Масла. «Калючык страціў сон. А ўсё праз тое, што імкнецца ўявіць сабе бясконцасць. — Як так, — думае вожык, — каб у космаса канца-краю не было?» — пачынае аповед аўтарка, параўноўваючы зоркі з белым налівам на яблынях (нечакана!). «Паставіў на ганак зэдлік, ускараскаўся на яго — каб быць да зорак бліжэй. Пыску ўгору задраў, на дыдачках выцягнуўся… Бух! Упаў! Ды такога грукату зэдлікам нарабіў, што разбудзіў суседа — барсука Клыпу», — як тут не ўсміхнуцца? І вось ужо разам з сябрам героі разважаюць пра касмічныя далячыні так прыцягальна, што хочацца сесці каля іх, угледацца ў бясконцыя прасторы, і марыць, спрачацца, пакуль вочы не заплюшчыць сон…

У кнізе «Як мядзведзь пчаляром стаў» хаваецца і працяг прыгодаў маленькага Шубуршуна, смелага рачнога капітана і вандроўніка, якога вялізная качка заносіць на бераг. Што чакае яго на невядомай зямлі? Сустрэча з працавітымі мурашамі, легенда пра чароўную Пясчынку, схаваную ў падзямеллях, і шмат карысных высноў… Твор Алены Стэльмах пра стары дуб і нахабнага крумкача нагадвае народнае паданне, а вось «Служка-воўк» Вольгі Савасцюк — хутчэй яшчэ адна байка пра тое, што нельга прымусіць тых, хто прызвычаіўся да волі, сядзець у цесным закутку… Ці не занадта складаная філасофія для дзяцей? Цяпер яны хутка растуць. Ды і навошта дарослыя побач? Яны і павінны тлумачыць… Чым раней дзіця навучыцца ўспрымаць свет не праз ружовыя акуляры, адказваць за свае ўчынкі, правільна ставіцца да людзей, тым будзе шчаслівейшым яго шлях.

У кнігу таксама ўвайшлі вершы Міколы Чарняўскага пра лісу-калядоўшчыцу і ката Мурмылу, рыфмаваныя парады Уладзіміра Карызны, творы Алеся Бадака пра кацяня, што хацела стаць гаспадаром двара, і шыў, што можна дастаць зорку з неба, падарожжы ў кветкавы «рай» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой.

Крыху асобна вылучаецца непадабенствам казка Георгія Марчука пра аўтобус, ліфт і насценны гадзіннік, рэчы, што сустрэліся аднойчы ў тры гадзіны ночы, каб паразмаўляць і распрачацца пра жыццё. І такое бывае! Не верыце? Разгледзьце ўважлівей ілюстрацыі да кнігі — у Марыі Каратаевай усё настолькі рэалістычнае, што дух захоплівае!

**Марыя ВОЙЦІК**



# Чарадзейства за дабрыню

**«Гэтая кніга чароўная!» — вось так адразу, без хітрыкаў, абяцае анатацыя новага выдання для дзяцей «Казкі чараўніцы Зімы», што з'явілася ў Выдавецкім доме «Звязда». Аўтар, Кацярына Хадасевіч-Лісавая, прапануе паразважаць на тэму чароўных падзей напярэдадні адной з самых шчодрых на казачны настрой пор года. Зіма зусім хутка. Будзьце гатовыя, чытачы!**

Тры казкі, верш і навагодняя быліна — вось такая «кампанія» размясцілася пад вокладкай невялікай, але вельмі ўтульнай кнігі. Чаму ўтульнай? Справа ў тым, што, як толькі яе адкрываеш, адразу захапляешся атмасферай, і хочацца выйсці на двор, з грукатам і смехам скаціцца з вялізнай горкі на імправізаваных санках, запхнуць сябру за шыварат снегу, а потым, калі ногі зусім стомяцца ад даганялак, стварыць унікальны шэдэўр з раскіданага наўкол белага халоднага цукру…

Сустракае чытачоў казка пра Жужыка, Харошку і Новы год. Дзеянне адбываецца ў адным утульным куточку беларускага краю, дзе размясціўся вельмі прыгожы ельнік з іглістымі, стройнымі і пышнымі красунямі, дзе вараць каву з жалудоў і засынаюць па прыродным гадзінніку… Адзін з цэнтральных персанажаў твора — малады Лесавічок, якому зусім нядаўна даручылі даглядаць цудоўны куточак лесу, падтрымліваць парадак і клапаціцца пра кожную елачку… А тут Новы год — і зусім не свята для іх, а небяспека. «Пабачыўшы бліскучыя цацкі, серабрысты дожджык




і цукеркі ў каляровых абгортках, якія віселі на іх калючых лапках, елачкі радаваліся такой казачнай прыгажосці, але з цягам часу радасць змянялася сумам: галінкі пачыналі апускацца, ападалі іголкі і жыццё пакідала маленькае дрэўца…». Не турбуйцеся, усё скончыцца добра. На злодзеяў з сякерамі знойдзецца ўправа. Але гэта ў аповесці, а ў жыцці? Аўтар яшчэ не раз у кнізе заклікае чытачоў шанаваць і берагчы прыроду, зразумець, што дрэвы — такія ж жывыя, як і кожны з нас!

Гартаючы выданне, раптам сустракаешся з Дзедам Марозам. Сапраўдным. Вось так, сам-насам. Дык існуе ён ці не? Пісьменніца дае разгорнуты адказ на гэтае пытанне… Распавядае аўтар і пра хлопчыка Васіля з пасёлка Сасноўка, які выратаваў яшчэ адну зялёна-блакітную прыгажуню з дапамогай незвычайнага прыстасавання. Лесвіца-драбінка, рыдлёўка, бервяно і дзве старыя прасціны дапамаглі яму акурат напярэдадні навагодняй ночы схаваць елачку так, што нават самы «прадвінуты» злодзей яе не знайшоў.

А лісты Дзеду Марозу спрабавалі пісаць? Не на камп'ютары, а сапраўдныя — на белай паперы. Арцём, як сучасны хлопец, таксама не верыў, што той, хто ходзіць у доўгім чырвоным халаце з вялізнай белай барадой і мяшком за плячыма, існуе. Але пад Новы год здараецца цуд, якога чакае ўся сям'я — дзякуючы маленькай сястрычцы, што прапануе звярнуцца да спадара Мароза, а паштальёнам прызначыць… снегавіка, які стаіць у двары! «Верце ў казку, сябры, і тады аднойчы вы зможаце стаць галоўнымі яе героямі».

**Марыя ВОЙЦІК**

## Унікальны праект

# На зоры глядзіць беларус




Вывучэннем неба і нябесных цел Цімафей Авілін захапіўся яшчэ ў школе. Скончыўшы шосты клас, падчас летніх канікулаў ён удзельнічаў у злёце юных астраномаў краін СНД. Тады школьнік проста ўразіў прафесіяналаў: падчас алімпіяды здолеў рашыць складаныя задачы лепш, чым адзінаццацікласнікі, і заняў першае месца. Сёння Цімафей мае адукацыю фізіка-ядзершчыка, працуе ў галіне інфармацыйных тэхналогій, а таксама з'яўляецца супрацоўнікам Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Захапленне небам не знікла, а ператварылася ў прафесійны інтарэс вывучэння народнай астраноміі, ці этнаастраноміі.

Больш як тры гады працы па напісанні кнігі, трынаццаць гадоў бясконцых пошукаў у архівах і мноства этнаграфічных экспедыцый. Пад вокладкай першай у айчыннай навуцы манаграфіі па народнай астраноміі малады даследчык здолеў сабраць сапраўды ўнікальны матэрыял. Работа Цімафея Авіліна «Паміж небам і зямлёй: Этнаастраномія» не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Тэхналогія».

— Калі пачаў вывучаць тэму, то дасведчаныя навукоўцы казалі, што гэтыя звесткі ўжо зніклі, бо раней іх не запісвалі, — распавядае Цімох. — Але насамрэч шмат інфармацыі яшчэ можна знайсці: у народзе памятаюць і легенды, і старыя назвы зорак, сузор'яў.

На думку даследчыка, кожны факт, кожная назва зоркі, сузор'я, прыкмета, якую памятаюць старыя людзі, калі не ўнікальная, то надзвычай істотная. Паўторы дапамогуць уявіць арэал распаўсюджання той ці іншай назвы або веравання. З такіх адзінкавых запісаў можна складаць карты, выйсці на больш шырокія абагульненні.

Пад тэрмінам «этнаастраномія» Цімафей прапануе разумець усё, што ў культуры звязана з нябеснымі аб'ектамі і целамі. У сваёй манаграфіі аўтар прадставіў некаторыя вераванні, старажытныя назвы зорак, сузор'яў, народныя ўяўленні, легенды і міфы, звязаныя з астранамічнымі з'явамі. Асобныя часткі кнігі распавядаюць пра метэоры, а таксама іншыя нябесныя целы ў фальклоры. Тут Цімох паспрабаваў прасачыць, якія факты сустракаюцца ў казках, легендах і паданнях. Яшчэ адна частка выдання прысвечана плямам на Месяцы, ці, як кажуць на вёсцы, «пятнам». Нашы продкі не ведалі, што гэта кратары, і давалі пятнам розныя назвы. Ёсць нават запісы, што некаторыя беларусы на Месяцы бачылі… трактар. У розных рэгіёнах краіны захаваліся варыянты назваў квадраў месяца. Перыяд, калі яго зусім нябачна, на Палессі называлі «гнілой парой» і ведалі, што ў гэты час можа балець галава. Старык, ветах — квадры, калі месяц памяншаецца, старэе.

Адметна, што выданнем можна карыстацца як даведнікам ці энцыклапедыяй, калі трэба ўдакладніць некаторыя факты, а можна і чытаць паслядоўна. Цімох спадзяецца, што факты, прыведзеныя ў кнізе, дапамогуць творчым людзям знайсці натхненне і хутка ператворацца ў мастацкія палотны ці літаратурныя творы. Важнай часткай работы з'яўляюцца і дадаткі, тут мноства каштоўных архіўных запісаў з розных мясцін Беларусі, Грузіі. Ёсць і больш як тры дзясяткі карт, на якіх прадстаўлены розныя арэалы распаўсюджання астранамічных назваў. Можна пабачыць, у якіх мясцінах зорку называюць «зоркай», а дзе — «звяздой» ці «гвяздай».

Самым каштоўным складнікам кнігі аўтар лічыць не звесткі, сабраныя з кніг, а інфармацыю, атрыманую менавіта падчас экспедыцый, непасрэдных гутарак з людзьмі.

— У дадатках да кнігі — запісы, зробленыя падчас экспедыцый, якія праводзіў я і мае сябры са Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. І гэта значна важней, чым проста апрацаваць вялікую колькасць літаратуры. Засталося гадоў 25, і больш не будзе магчымасці зафіксаваць гэтыя звесткі — зменіцца пакаленне, — дадае Цімох. — Ёсць нават задумка звязацца з мясцовымі краязнаўцамі, дамамі культуры, даслаць ім распрацаваны мной апытальнік і папрасіць, каб збіралі інфармацыю па народнай астраноміі, што яшчэ захавалася. Атрымаўся б выдатны зборнік матэрыялаў.

Цікава, што кніга «Паміж небам і зямлёй: Этнаастраномія» разбурае некаторыя міфы. Аказваецца, нашы продкі не называлі Венеру Мілавіцай, а зорку, якая падае — знічкай. Гэты стэрэатып трапіў у свядомасць з мастацкай літаратуры — словы надта прыгожыя.

— Гэтае выданне не столькі пра зоры і нябесныя целы, колькі пра саміх беларусаў, — зазначыла рэдактар кнігі, доктар філалагічных навук, вядомая даследчыца фальклору Таццяна Валодзіна. — Тут сабраныя ўяўленні нашых продкаў. Яны цяжка працавалі і час ад часу пазіралі на неба, бачылі там тое ж, што і на зямлі. Адсюль і такія зусім зямныя назвы сузор'яў — Курачкі, Два Браты.

Веды астраноміі нашы продкі не лічылі сакральнымі, гэта больш практычныя і прагматычныя звесткі — па сонцы, месяцы і зорках вызначалі час, калі можна пачынаць жніво, сеяць. Але, як распавёў Цімафей, ёсць запісы з Любанскага раёна, дзе лічылася, што толькі ведзьмы валодаюць ведамі па астраноміі. А ў Веткаўскім раёне ён неяк запісаў расповед бабулі, якая сцвярджала, што ў пачатку ХХ стагоддзя жыла бабка-павітуха, яна, прыняўшы роды, магла паглядзець на неба і па размяшчэнні зорак прадказаць лёс дзіцяці. Магчыма, гэта і ёсць якраз той сакральны складнік ведаў, які сёння, на жаль, амаль страчаны.

Мы і сёння верым у тое, што валасы лепш стрыгчы падчас поўні, а калі з неба падае зорка, трэба загадаць жаданне. Карані, тлумачэнні некаторых вераванняў можна знайсці ў новым даследаванні. Так, Цімох патлумачыў, што калі ляціць зорка — значыць, у гэты час недзе памірае чалавек, мы ж бачым не зорку, а анёла, які ляціць па душу. На працягу шляху на зямлю анёл не можа ні ў чым адмовіць. Атрымліваецца, што жаданне загадваюць не зорцы, а анёлу. Гэтыя звесткі даследчык зафіксаваў на Каўказе. Дарэчы, па тым, як падае зорка, нашы продкі маглі даведацца, які чалавек памёр. Калі след яркі — значыць, добры быў, калі зорка цёмная — памірае ведзьма або бедны ці вельмі хворы. У Дукоры, непадалёк ад Мінска, кажуць: калі ляціць зорка, трэба цягаць сябе за валасы — тады яны вырастуць доўгія. А яшчэ знічкі могуць дапамагчы пазбавіцца ад бародавак: калі зорка ляціць па небе, трэба трэсці рукой з барадаўкамі, нібыта іх скідваеш. Існуе і адваротнае павер'е: на зоркі нельга паказваць пальцам, бо могуць з'явіцца барадаўкі, а яшчэ — можна патрапіць на сваю і неўзабаве памерці, калі яна ўпадзе.

А чаго баяліся нашы продкі? Сонечнага зацьмення. Існавала нават правіла: калі бачыш, што сонца нібыта знікае, трэба абавязкова схавацца ў хату, бо з неба можа нешта ўпасці. Яшчэ баяліся метэораў: лятучыя зоркі часта суадносіліся з агнём. Калі бачылі балід (вялікі метэор), то думалі, што агонь падае на зямлю. Часам такія з'явы маглі асацыявацца з цмокамі і лятучымі змеямі. У асобных рэгіёнах казалі, што гэта вядзьмарка або чараўнік ляціць па небе. Але зафіксаваныя і выпадкі, калі людзі сапраўды бачылі, як на зямлю падалі метэарыты, і баяліся, што яны маглі трапіць у дрэва ці хату.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Прэзентацыя

# Ад палявання — да песень

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча прайшла прэзентацыя кнігі Аляксея Ненадаўца «Уладзімір Караткевіч: прырода, фальклор і творца», якая пабачыла свет сёлета ў Выдавецкім доме «Беларуская навука». Арганізаваў імпрэзу Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.




Выхад кнігі — радасная навіна і для прыхільнікаў творчасці слыннага пісьменніка, і для аматараў вывучэння гісторыі і традыцый.

Аўтар манаграфіі, А. Ненадавец, нарадзіўся ў 1958 годзе на Піншчыне, у вёсцы Чухава. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура», аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, пасля — дактарантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі, дзе і абараніў доктарскую дысертацыю.

Сёння Аляксей Ненадавец — доктар філалагічных навук, прафесар — загадчык кафедры грамадскіх дысцыплін бабруйскага філіяла Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Найлепшы адпачынак для яго — вандроўкі па краіне, запіс міфаў, легенд і паданняў.

Адкрыў мерапрыемства галоўны рэдактар «Беларускай навукі» Георгій Кісялёў, які адзначыў, што новая кніга — аўтарская спроба аб'яднання даследчых матэрыялаў, прысвечаных творчасці Уладзіміра Караткевіча. У ёй аўтар закрануў тэмы варажбы і знахарства ў творах слыннага беларускага пісьменніка, звярнуў увагу на тое, як ставіліся нашы продкі да веры, да смерці. Г. Кісялёў таксама адзначыў, што А. Ненадавец — адзін з першых, хто звярнуў увагу на тэмы палявання і народных песень у творчасці У. Караткевіча.

Працягнула вечарыну паэтэса Галіна Булыка, якая распавяла пра супрацоўніцтва з аўтарам манаграфіі ў той час, калі яна займала пасаду галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Культура», а таксама пра тое, наколькі, паводле яе бачання, А. Ненадаўцу блізкі вобраз У. Караткевіча.

Вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Яўген Гарадніцкі адзначыў, што А. Ненадавец — найвыдатнейшы тэарэтык фальклору, у яго творах аптымальна спалучаюцца тэарэтычныя асновы і лёгкасць падачы матэрыялу. З удзячным словам выступіла пляменніца Уладзіміра Караткевіча Алена Сінькевіч.

Завяршыў сустрэчу аўтар прэзентаванай манаграфіі Аляксей Ненадавец, які згадаў гісторыю знаёмства з Уладзімірам Караткевічам, а таксама распавёў пра тое, што яго (як і большасць аматараў) захапляе ў творчасці выбітнага аўтара. На самым пачатку пісьменніцкага шляху Уладзімір Караткевіч ужо ведаў, што не варта ісці «пратаранымі» сцежкамі, таму «заварочваў» туды, дзе сустракалася найбольш цяжкасцей і супярэчнасцей, свядома адмаўляўся ад такіх прыёмаў у творчасці, як спрашчэнне сітуацыі ў пошуках выйсця са становішча.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# У сусветнай павуціне

Напярэдадні юбілею Уладзіміра Караткевіча стала цікава: што пра класіка беларускай літаратуры ведаюць у інтэрнэце. Звяртаемся да вядомых пошукавых сістэм — *Google* і Яндэкс. Пошукавае запытанне таксама найбольш агульнае — «Короткевич Владимир Семенович». І як вынік — каля 102 тысяч адказаў.

Перадусім трэба вылучыць сайт *karatkevich.ru* — цэлы інтэрнэт-партал, прысвечаны класіку. На яго старонках — і кароткая біяграфія пісьменніка, і добрая фотакалекцыя, і многія творы аўтара (некаторыя нават на дзвюх мовах).

Цікава параўнаць інфармацыю пра Караткевіча ў *ru*- і *by*-нэце. Калі беларускамоўныя старонкі называюць яго майстрам гістарычнага рамана, чалавекам, які апісаў нацыянальную свядомасць беларусаў, то на рускамоўных сайтах пра Караткевіча гаворыцца як пра майстра ў жанрах містыкі, жахаў, готыкі і нават фантастыкі. Напрыклад, партал «Лабараторыя Фантастыкі» (*fantlab.ru*) сцвярджае:

«Асобна варта згадаць аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» — пэўна, лепшы з твораў, напісаных у жанры готыкі ў савецкія часы. Гэта бліскучая мадэрнізаваная стылізацыя пад Эн Радкліф, дзе містычныя жудасці аказваюцца насамрэч парадджэннем чалавечай подласці і злосці».

Відавочна вузкае разуменне беларускіх гістарычных і міфалагічных рэалій, выкарыстаных у творах Караткевіча. Там, дзе мы бачым старонкі гісторыі нашага народу, дзесьці вясёлыя, дзесьці сумныя, дзесьці сапраўды жахлівыя, іншыя бачаць толькі містычныя казкі, хорар-аповесці і фантастыку.

Творчасць Караткевіча дагэтуль натхняе маладых пісьменнікаў на літаратурныя спробы. На аматарскім партале *stihi.ru* існуе профіль пад імем Уладзіміра Караткевіча, дзе аўтарка пад псеўданімам Ляксандра Зпад Барысава апублікавала зборнік вершаў «Матчына душа» ў арыгінале, а таксама пераклад яго на рускую мову.

Гэтаксама Караткевіч заўважаны ў фанфікшане — фанацкай літаратурнай творчасці, заснаванай на пэўным арыгінальным творы. На самым буйным рускамоўным партале фанфікаў апублікаваныя два творы па матывах творчасці Караткевіча: вершаваны пераказ аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» пад назвай «Дикая охота, или Тридцать дней в Ялинах» (аўтар — проста Аноним) і «Приквел к роману Владимира Короткевича «Черный замок Ольшанский», выполненный в жанре альтернативной истории и хоррора…». Назва «прыквела» — «Без памяти», аўтар — *Contesina*.

Адны знаходкі цешаць, іншыя выклікаюць пытанні, але зразумела адно: цікавасць да Уладзіміра Караткевіча не памірае.

**Анастасія СЕМЯНЬКО**

# Бязмежныя далягляды

**Дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай былі ўсталяваны ў 1992 годзе. Але за такі невялікі, як падаецца, адрэзак часу развіццё стасункаў з Кітаем стала прыярытэтным напрамкам знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь: краіны рэгулярна абменьваюцца візітамі на вышэйшым узроўні, ажыццяўляюць актыўны міжпарламенцкі дыялог, дынамічна развіваюць міжведамасныя кантакты. Кітай — пяты па значнасці міжнародны гандлёвы партнёр Беларусі па-за краінамі СНД.**




Фота Надзеі Бужан.

*Падчас пасяджэння «круглага стала».*

Культурны абмен паміж нашымі народамі пачаўся значна раней. Праз мастацкі пераклад, спасціжэнне шматвекавой мудрасці і асаблівасцей светабачання. Літаратура — гэта адлюстраванне ментальнасці этнасу, уяўленняў пра светабудову і лад жыцця. Да таго ж знаёмства з творамі замежнага аўтара стымулюе цікавасць да яго радзімы, вытокаў. «Круглы стол» «Кітайская літаратура ў Беларусі», які прайшоў у Выдавецкім доме «Звязда», якраз і быў прысвечаны самым актуальным пытанням беларуска-кітайскага культурнага ўзаемадзеяння, традыцыям і спецыфіцы перакладу літаратурных твораў, праблеме фарміравання перакладчыцкіх школ. Вялікае значэнне ў гутарцы надавалася і кітайскай маўленчай практыцы, падрыхтоўцы перакладчыкаў кадраў у беларускіх ВНУ, «кітайскай» тэме ў СМІ, выданням кітайскіх аўтараў на беларускай мове.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч адзначыў вялікую цікавасць і адкрытасць да ўзаемадзеяння з кітайскім бокам, расказаў пра ўпэўненыя крокі па рэалізацыі культурнага супрацоўніцтва: «Сёлета Кітайская Народная Рэспубліка стала ганаровым госцем XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі, 45 кітайскіх выдаўцоў прадставілі больш за 5 тысяч кніг, падпісана дамова аб выданні ўзаемных перакладаў літаратурных твораў Кітая і Беларусі ў 2015—2020-х гг. На дадзены момант ужо пабачылі свет аўтарская анталогія Міколы Мятліцкага «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая», анталогія кітайскай літаратуры XX стагоддзя на беларускай мове «Стагоддзе на знаёмства», чатыры кнігі серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая»: пераклады паэзіі Ван Вэя, Ду Фу, Лі Бо, Ай Цына. Зараз да друку падрыхтаваны зборнік паэзіі Лі Хэ ў перакладах Алены Рамаўоўскай, Леаніда Дранько-Майсюка, Таццяны Сівец, Юліі Алейчанкі. Прычым Алена Раманоўская перакладала свайго любімага паэта непасрэдна з арыгінала, а для астатніх паэтаў-перакладчыкаў зрабіла падрабязныя падрадкоўнікі з грунтоўнымі каментарыямі, што тлумачаць гістарычныя і міфалагічныя рэаліі кітайскага народа. Нечаканай радаснай навіной для нас стала знаходка ў хатнім архіве родных Анэлі Тулупавай рукапісу кнігі перакладаў кітайскай паэткі XII стагоддзя Лі Цынджаа, здзейсных самой Анэляй Іванаўнай, а таксама Вольгай Іпатавай, Нінай Загорскай, Яўгеніяй Янішчыц. Таму вырашылі зрабіць зборнік перакладаў Лі Цынджаа яшчэ адной кнігай серыі «Светлыя знакі. Паэты Кітая». У планах — перакласці сучаснага аўтара Ван Го Джы. Спадзяёмся, што ў дамове з аўтарскімі правамі нам дапаможа Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ».

Важнасць універсітэцкіх асяродкаў у справе сучаснай культурнай камунікацыі падкрэсліў літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ Мікалай Хмяльніцкі: «Беларуска-кітайскія літаратурныя сувязі маюць даўнюю гісторыю. Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя беларускія чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з перакладамі твораў «Даа з гор Лаа» і «Гульня мячом у падводным царстве» на старонках газеты «Наша Ніва». Далей былі пераклады Уладзіміра Дубоўкі, Янкі Брыля, Васіля Віткі, Янкі Сіпакова, Рыгора Барадуліна і іншых мастакоў слова. Паступова знаёміліся беларусы і з дасягненнямі сусветнай сіналогіі — працамі В. Аляксеева, М. Конрада, Б. Васільева, А. Штукіна. Да нядаўняга часу ў Беларусі працавалі два Рэспубліканскія інстытуты імя Канфуцыя (пра БДУ і МДЛУ). Не так даўно Беларусь улілася і ў сетку спецыялізаваных Інстытутаў Канфуцыя — у 2013 г. адчыніў дзверы Інстытут Канфуцыя па навуцы і тэхніцы БНТУ з красамоўным дэвізам: «Веды, назапашаныя стагоддзямі, даступныя кожнаму». Філалагічны факультэт БДУ — таксама своеасаблівы асяродак творчай моладзі, якая імкнецца спазнаваць свет, знаёміцца з прадстаўнікамі іншых народаў. Навучэнцы і выпускнікі спецыяльнасці «Усходняя філалогія» маюць магчымасць пабываць на стажыроўках у Кітаі, бо без жывой камунікацыі вывучэнне мовы не можа быць максімальна эфектыўным. Універсітэцкія цэнтры ва ўсе часы гуртавалі вакол сябе творчую і навуковую эліту. Нам неабходна наладжваць больш трывалыя кантакты з універсітэтамі Пекіна, Шанхая і іншых культурных цэнтраў».

Пра дзейнасць перакладчыцкага гуртка пры кафедры кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ распавяла выкладчыца Ганна Холева: «Аснову нашага гуртка склалі навучэнцы трэцяга і чацвёртага курсаў. Сваю дзейнасць мы пачалі з паэзіі і адабралі каля дваццаці вершаў вядомага кітайскага паэта Сюй Чжымо. Для таго каб дапамагаць студэнтам з перакладамі ў рэжыме анлайн і пастаянна быць з імі на сувязі, мы стварылі суполку ў вядомай сацыяльнай сетцы (*vk.com/club104594804*). Усе пераклады мы размяшчаем у гэтай суполцы, такім чынам, удзельнікі могуць абмяркоўваць цяжкасці, знаёміцца з перакладамі сваіх аднадумцаў. На сёння перакладзена каля дваццаці вершаў, некаторыя хутка пабачаць свет у часопісе «Маладосць». Мы ўпэўнены, што гэта толькі пачатак, і будзем рабіць усё, каб перакладчыцкая дзейнасць гуртка пашыралася».

Да таго ж намаганнямі Ганны Холевай і Дар'і Нечыпарук (таксама выкладае ў БДУ) створана суполка «Беларускіх кітаязнаўцаў і перакладчыкаў» на сайце *Yiyanwang* (дамен сайта *www.cctss.org*), які з'яўляецца праектам Міністэрства культуры КНР і аб'ядноўвае вялікую каманду кітаязнаўцаў і перакладчыкаў розных краін. «Мы размяшчаем інфармацыю, якая мае сувязь з літаратурнымі і культурнымі адносінамі нашай краіны і Кітая. Асвятляем дасягненні маладых перакладчыкаў, навіны, культурныя і літаратурныя мерапрыемствы. Такім чынам, мы маем магчымасць данесці інфармацыю пра нас да шырокага кола карыстальнікаў усяго свету і разам з тым лёгка атрымаць неабходную і цікавую інфармацыю», — канстатуе Дар'я Барысаўна.

Сапраўдным падарункам для ўсіх аматараў кітайскай мовы, а таксама для кітайскіх слухачоў, якія цікавяцца беларускай культурай, стала стварэнне кітайскага вяшчання на Беларускім радыё. У многім гэта адбылося дзякуючы літаратурным сувязям галоўнага дырэктара замежнага вяшчання Беларускага радыё Навума Гальпяровіча — вядомага паэта і перакладчыка, якому ў свой час пашчасціла пазнаёміцца ў Пекіне з Гаа Манам — верным сябрам нашай літаратуры, які перакладаў вершы Максіма Танка. Дапамагаў у арганізацыі вяшчання і выкладчык БДУ, мастак і паэт Лі Цзо.

Мастацкі пераклад — галоўны пасрэднік паміж дзвюма сістэмамі мыслення, светабачання. Лепш за ўсё асаблівасці ментальнасці, нюансы псіхалогіі можна зразумець праз твор мастацтва. Да таго ж нельга забывацца і на асветную, адукацыйную, выхаваўчую функцыі перакладаў з іншых моў. Мастацкія пераклады — яшчэ і крыніца ўзбагачэння нацыянальнай літаратуры: на ўзроўні тэм, ідэй, вобразаў, фармальных і стылёвых пошукаў. Аказваюць яны станоўчы ўплыў, безумоўна, і на фарміраванне літаратурнай мовы. Вельмі складана перакладаць сапраўдную паэзію, бо, па словах Алеся Разанава, «трэба перакладаць не словы і не строфы, а тое, што «перакладаюць» яны, вершы, — сэнс, гукасэнс, духасэнс». Гэтую думку пацвярджае перакладчыца Алена Раманоўская: «Кітайская паэзія мае шмат асаблівасцей, якія надаюць ёй надзвычайную выразнасць і якія вельмі цяжка (а часам і зусім немагчыма) перадаць сродкамі еўрапейскіх моў. Перш за ўсё гэта выразнасць іерагліфічнай пісьмовасці. Іерогліфы складаюцца з графем, якія, у сваю чаргу, маюць уласнае значэнне. Дзякуючы гэтаму існуе такі прыём, як выкарыстанне аднолькавых графем (так званыя графічныя рыфмы), што дазваляе чытачу з першага погляду здагадацца пра тэматыку верша. Па-другое, гэта насычанасць кітайскіх вершаў алюзіямі, схаванымі цытатамі (у адрозненні ад еўрапейскай паэзіі: чым болей цытат з папярэдніх твораў ужывае аўтар, тым вышэйшую адзнаку атрымлівае такі верш)».

Але няпроста перакладаць і сур'ёзную прозу. Не страціць нацыянальны каларыт, але і пэўным чынам адаптаваць для замежнага чытача. Студэнтка 4 курса спецыяльнасці «Усходняя філалогія» філфака БДУ Алена Сцяпашкіна адчула гэта падчас працы над перакладам навел аднаго з найзнакамiцейшых пісьменнікаў традыцыйнага Кітая Пу Сунліна: «Для мяне паўстала складаная задача — зрабіць навелы зразумелымі для беларускага чытача і ў той жа час захаваць у іх кітайскую аснову, кітайскі дух. Хацелася б, каб беларус, чытаючы навелы Пу Сунліна, лёгка ўспрымаў мову, спецыфічныя выразы, але ў той жа час адчуваў, што гэта менавіта кітайская проза. Гэтая «кітайскасць» выяўляецца найчасцей у эпітэтах і параўнаннях, характэрных для іх культуры, але крыху дзіўных для нашай».

Падсумаваў сказанае ўсімі ўдзельнікамі «круглага стала» літаратуразнаўца, перакладчык, кандыдат філалагічных навук Міхась Кенька: «Вельмі добра, што ўжо ёсць падрыхтаваныя на філфаку БДУ знаўцы кітайскай мовы, літаратуры і культуры. З іх дапамогай мы можам узняцца на новую ступень якасці перакладаў кітайскай мастацкай літаратуры. Хай сабе спачатку пры дапамозе падрадкоўнікаў, а там дойдзе справа і да перакладаў з арыгінала. Першыя з іх ужо ёсць. Перастварэнні з ужо зробленых перакладаў вершаў на рускай мове, якія ў нас доўгі час рабіліся, прыводзяць да павелічэння страт у змесце, скажэнняў, узрастае колькасць дададзенага ад сябе. Але ўсё ж трэба скарыстаць і тое, што было ўжо зроблена менавіта такім чынам. Вельмі добра, што адшукаўся падрыхтаваны яшчэ ў 1993 годзе, але не выдадзены, пераклад вершаў, Лі Цыньчжаа. Яго пажадана выдаць ці ў тым выглядзе, як ён быў складзены, ці з далучэннем новых перакладаў. Пераклад, зроблены паэтам, нягледзячы на ўсе перашкоды, перадае дух мастацкага твора, даносіць яго эстэтычныя вартасці. Хацелася б таксама больш рабіць і «ў другі бок», прапагандаваць беларускую мастацкую літаратуру ў Кітаі, дапамагаць у працы кітайскім перакладчыкам. Многа значаць пры гэтым асабістыя кантакты, узаемная зацікаўленасць».

Дапоўніў думку аб неабходнасці двухбаковага ўзаемадзеяння і Навум Гальпяровіч: «Думаю, што нашы стасункі трэба актыўна развіваць. Хацелася, каб і наша літаратура часцей перакладалася на кітайскую мову. Таму трэба не толькі прапагандаваць лепшыя творы айчыннай літаратуры, а больш прыцягваць увагу нашых спецыялістаў, якія ведаюць кітайскую мову, ствараць падрадкоўнікі для прафесійных перакладчыкаў. Сумесныя стасункі прынясуць, безумоўна, вялікую карысць і для беларускай літаратуры, бо ў нашых пісьменнікаў, як класікаў, так і сучаснікаў, ёсць нямала твораў, з якімі было б варта пазнаёміць кітайскага чытача».

Бясконцая працавітасць, уменне выжываць у любых умовах, мяккі гумар — тое, што звязвае беларускі і кітайскі народы. А яшчэ, у добрым сэнсе гэтага слова, памяркоўнасць. Кітайская прымаўка сцвярджае: «Зрабі крок назад — і перад табой адкрыюцца бязмежныя далягляды». Ці не падобна гэта да беларускай мудрай звычкі не падпадаць пад уладу эмоцый і спакойна ацэньваць сітуацыю? Нават лёс кітайскіх і беларускіх класікаў вельмі падобны. Напрыклад, акалічнасці жыцця паэта Ай Цына, які пачынаў свой творчы шлях у сярэдзіне XX стагоддзя, блізкія да адпаведных нашых рэпрэсіраваных творцаў… Вось і «круглы стол» «Кітайская літаратура ў Беларусі», засведчыўшы блізкасць двух народаў, абазначыў важныя праблемы культурнага ўзаемадзеяння, якія патрабуюць усебаковага разгляду і вырашэння. Аб'ядноўваючы сілы ўніверсітэцкіх цэнтраў, СМІ, кнігавыдання, гэта цалкам можна зрабіць. Сумесныя культурныя мерапрыемствы, конкурсы перакладчыкаў, анлайн-канферэнцыі з кітайскімі калегамі, творчыя камандзіроўкі і стажыроўкі за мяжой — вось ясна акрэсленыя задачы, вырашаць якія мусяць усе неабыякавыя да кітайскай культуры.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# Не рухі — містыка!

**Майстар-класы па сярэднявечных танцах прайшлі ў арт-прасторы «Тэрмін дзеяння». Ад наведвальнікаў патрабаваліся добры настрой, зручнае адзенне і абутак. Пра заняткі распавяла выкладчыца Ганна Кідрон.**



*Выкладчык майстар-класаў па сярэднявечных танцах Ганна Кідрон.*

**— Як узнікла ідэя?**

— З 2010 года працую рэканструктарам — шыццё касцюмаў, вывучэнне сярэднявечнай кухні, танца. З гэтага «спіса» мне больш за ўсё спадабаліся танцы, і я пачала імі займацца. Праз гістарычны танец атрымліваеш шмат цікавых ведаў: сімволіка, гісторыя, традыцыі народаў розных эпох. Пасля заняткаў унутры ўзнікае адчуванне свабоды, лёгкасці і спакою.

Наогул, лічу, што, калі ў кагосьці ёсць веды ў пэўнай сферы, імі абавязкова трэба дзяліцца з іншымі. Сёлета з'явілася арт-прастора «Тэрмін дзеяння», а разам з ёй і месца, дзе можна вучыць танцам, — цудоўны сад, у якім і прайшлі заняткі. Дарэчы, на гэтай базе ладзяць шмат мерапрыемстваў: пленэры, урокі англійскай і нямецкай моў, семінары, трэнінгі.

**— Якія танцы паспелі развучыць на першых занятках?**

— Мы вывучылі бранлі і ланцужковыя танцы. Бранлі — сярэднявечныя танцы XV — XVI стст., якія выконваюць у крузе. Ва ўсім шэрагу бранляў адна і тая ж схема: крочыш налева, затым направа, а паміж крокамі — пэўныя рухі, якія задаюць танцу тон. Ланцужковыя — гэта брытанскія танцы кшталту касцербарт. Далей вывучалі менш дынамічныя танцы, свецкія, спакойныя: вальс святога Бернарда — прыгожы і вытанчаны, іспанскі вальс — асаблівы па прыгажосці, нарвежская кругавая — містычны танец з адпаведнай музыкай. У кожным танцы — дух народа, які яго стварыў. Вядома, мы танчым не арыгінал, створаны ў XIV — XVI стст., а толькі яго рэканструкцыю, тое, што засталося ў запісах XVII ст.

**— Што мелі на мэце?**

— Падарыць радасць, а таксама захаваць гісторыю танца, — цікавага, дынамічнага, вясёлага!

**Анастасія МЕЛЕХАВА, фота аўтара**

# Танцавальная гісторыя

**Доўгачаканая прэм'ера мюзікла «Вяселле ў Малінаўцы» з поспехам прайшла ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры.**

Вядомыя з савецкага часу героі культавай музычнай камедыі Андрэя Тутышкіна зноў паўсталі перад гледачамі і нагадалі сюжэт любімай кінакарціны. Яркае, эмацыянальнае дзеянне адразу ж чапляе і пераносіць у эпіцэнтр падзей, дзе ўжо рыхтуецца вяселле атамана Грыцыяна Таўрыцкага, які толькі ўчора напаў на ўкраінскае сяло Малінаўка, а ўжо сення планує ажаніцца з маладой прыгажуняй Ярынкай. Сціплая дзяўчына насамрэч кахае пастуха Андрэйку і, удзельнічаючы ў плане чырвоных коннікаў — разгроме банды атамана, прыкідваецца, згаджаючыся стаць жонкай Грыцыяна.

Мюзікл "Вяселле ў Малінаўцы" пастаўлены рэжысёрам-пастаноўшчыкам, заслужаным дзеячам мастацтваў Расіі Міхаілам Кавальчыкам. На прэс-канферэнцыі да прэм'еры рэжысёр расказаў, што яго мэтай не было пераробіць класічны сюжэт пастаноўкі, наадварот — паказаць актуальнасць спектакля, адлюстраваць яго праверку часам. У выніку можна заўважыць, што літаратурная і сцэнічная канва вядомага твора не была загублена.



*Сцэна са спектакля «Вяселле ў Малінаўцы».*

Значная ў падрыхтоўцы мюзікла роля галоўнага балетмайстра — Наталлі Масквічовай: за два тыдні да прэм'еры яна падрыхтавала ўсю харэаграфію карціны. За яе яркімі пастановачнымі нумарамі гледачы сачылі па працягу ўсяго дзеяння. Менавіта гэтыя запальныя танцы і стварылі асаблівы, святочны настрой. Наталля Масквічова працуе галоўным балетмайстрам Свярдлоўскага тэатра музычнай камедыі, падчас гастроляў якога ў Мінску мастацкі кіраўнік Беларускага акадэмічнага музычнага тэатра Адам Мурзіч прапанаваў ёй паўдзельнічаць у працы над пастаноўкай.

Вясельны стол, рэтрааўтамабіль, футравыя шапкі і прыгожыя сцэнічныя касцюмы лаканічна ўпісваюцца ў канцэпцыю мюзікла. Мастак-пастаноўшчык Андрэй Меранкоў у чарговы раз парадаваў гледачоў сваім прафесіяналізмам і густам, бо без такога стыльнага афармлення не атрымалася б трыумфу.

Абмяркоўваючы вынікі прэм'еры, можна сцвярджаць: работа выканана таленавітай і моцнай камандай. Акцёрам было прыемна і цікава працаваць з матэрыялам. Заўважна паразуменне выканаўцаў з рэжысёрам. Захапляльныя песні, танцавальная музыка, каларытны народны гумар і разгорнуты дыялог акцёраў з гледачамі падштурхоўвае паглядзець мюзікл яшчэ раз.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**

*Суайчыннікі*

# З Далёкага Усходу…

Рамантык, падарожніца, паэтэса, член Саюза мастакоў Расіі, член Міжнароднай асацыяцыі выяўленчых мастацтваў ЮНЕСКА — усё гэта пра ўраджэнку Мазыра, а сёння жыхарку Хабараўска Ірыну Оркіну.

Нядаўна яна наведала Беларусь. Гасцяваўшы на малой радзіме, зазірнула ў Дзяржынск, дзе ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася цікавая сустрэча з паэтамі, мастакамі, настаўнікамі. Дырэктар кніжніцы Валянціна Клімовіч пазнаёміла госцю з установай. Пачатак выступлення Ірына Оркіна прысвяціла сваім бацькам. Калі Ірыне споўнілася 5 гадоў, бацькі пераехалі ва Уладзіміраўскую вобласць (Расія). Там дзяўчына скончыла школу, Абрамцаўскае мастацкае вучылішча імя В. Васняцова і атрымала накіраванне на працу ў Хабараўск. У хуткім часе прадоўжыла вучобу ў Хабараўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, і тут жа адбылося яе станаўленне як мастака-графіка, кераміста, педагога. Ірына Оркіна лічыцца на Далёкім Усходзе адным з вядучых прадстаўнікоў постмадэрнісцкага кірунку ў скульптуры. Выстаўкі яе твораў праходзілі ў Расіі, Японіі, Францыі, ЗША, Германіі.

Творца вядомая і як аўтар незвычайных вершаў. Многія яе керамічныя, графічныя работы суправаджаюцца паэтычнымі радкамі, якія адлюстроўваюць сутнасць твора. На гэтым грунтуецца і яе кніга «Вершаграфіка», вершы з якой Ірына Оркіна прачытала прысутным. Таксама творца пазнаёміла гасцей з першай уласнай кнігай «Свой круг» і кнігай (толькі з-пад пяра) «Скульптура свабодных асацыяцый», якая аздоблена мноствам каляровых фотаздымкаў керамікі, вершамі.

Вядомая Ірына Оркіна ў Расіі і як таленавіты педагог. Сёлета яе запрасілі ў Якуцк, дзе вучыла дзяцей мастацтву керамікі, а ў горадзе Невельску (востраў Сахалін) праводзіла майстар-клас падчас міжнароднага пленэру. Па ініцыятыве Ірыны ў Хабараўску пачалі штогод адзначаць Дзень ганчара.

**Лявон ЦЕЛЕШ**



*Ірына Оркіна ў сваёй майстэрні.*

# Унутры карцін

**«Чалавек нясе ў душы сваёй яркае полымя, але ніхто не хоча пагрэцца каля яго: мінакі заўважаюць толькі дымок, які сыходзіць праз трубу, і праходзяць сваёй дарогай», — так казаў адзін з заснавальнікаў сучаснага жывапісу, чалавек з надзвычай трагічным лёсам і неверагоднай прагай да мастацтва.**

«Пачуцці на максімум!» — раяць арганізатары ўнікальнай выстаўкі «Ван Гог. Палотны, якія ажылі». Каля 400 карцін за 40 хвілін — такой экспазіцыі ў Мінску яшчэ не было. Праўда, убачыць арыгіналы не атрымаецца. Без рэпрадукцый на паперы таксама абышліся. Як жа тады? У справу ўступілі найноўшыя тэхналогіі.

Алічбаваныя выявы карцін на велізарных экранах дазваляюць разглядзець і «Сланечнікі», і «Зорную ноч», і аўтапартрэты з французскімі пейзажамі і японскімі замалёўкамі ледзь не пад мікраскопам. Мультымедыйная выстаўка нідэрландскага постімпрэсіяніста, якая праходзіць у сталічнай выставачнай прасторы «Цэх», прысвечана 125-годдзю з дня смерці вялікага мастака. Па ўсёй Еўропе ў сувязі з гэтай датай ладзяцца тэматычныя экспазіцыі — Беларусь, вядома, не засталася ўбаку.

Арганізатар праекта Максім Волкаў адзначыў, што выстаўка дазваляе пазнаёміцца амаль з усімі творчымі перыядамі Ван Гога, адчуць настрой майстра, з якім ён ствараў тыя ці іншыя палотны, дух часу, у якім ён жыў, яго перажыванні і ўнутраную эвалюцыю. «Каб убачыць усё гэта характво ўжывую, вам прыйдзецца вандраваць па музеях і галерэях свету не адзін год», — дадаў арганізатар.

Уражанне ўзмацняе, па словах Максіма Волкава, унікальны музычны шэраг, які складаецца з твораў Рахманінава, Дэбюсі, Чайкоўскага. Таксама можна ўбачыць цытаты з лістоў Ван Гога свайму брату Тэа. «На мой погляд, я часта, хоць і не кожны дзень, бываю казачна багаты — не грашыма, а тым, што знаходжу ў сваёй працы: тым, чаму магу прысвяціць і душу, і сэрца, што натхняе мяне і надае сэнс майму жыццю», — казаў Ван Гог. Выстаўка творцы натхняе не менш: тут сапраўды можна правесці амаль дзень, паглыбіўшыся ў прыгажосць і філасофію.

Выставачная прастора «ЦЭХа» — гэта паўтары тысячы квадратных метраў. А зараз уявіце, што на сцэны праецыруюцца велізарныя выявы карцін, увесь час вельмі плаўна змяняючы адна адну. Што для гэтага трэба? Кінапраектары з высокай якасцю і гіганцкія экраны з ідэальнай перадачай колераў. Ствараецца адчуванне, што ты глядзіш фільм — аўтары экспазіцыі дамагліся максімальнага эфекту прысутнасці з дапамогай гульні святла і ценяў, «жывых» украпванняў у нерухомыя карціны — напрыклад, у выглядзе птушак, што пасля выбуху з крыкам «рассыпаюцца» па палатне.

Як паведамілі арганізатары, наведвальнікі незвычайнага вернісажу могуць апынуцца і ў ролі мастакоў — узяць удзел у майстар-класах па жывапісе ад прафесійных педагогаў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Радыёлетапіс даўжынёй у 90 гадоў

**«Гаворыць Мінск!..» — упершыню гэтае паведамленне разнеслася па радыёхвалях 15 лістапада 1925 года. Беларускаму радыё сёлета споўнілася 90 гадоў. Вялікі юбілей са значным багажом. Беларускае радыё сёння — гэта 2 агульнанацыянальныя каналы — Першы нацыянальны і «Культура» — і 3 радыёстанцыі — «Беларусь», «Радыус FM», «Сталіца». Першы нацыянальны канал — найбуйнейшы радыёканал Беларусі, сетка вяшчання якога спалучае інфармацыйныя, грамадска-палітычныя, сацыяльна-эканамічныя, музычныя і літаратурна-мастацкія перадачы. Чым напоўнены літаратурна-мастацкі блок? Што ў даробку майстроў мастацкага слова? Наша гутарка — з загадчыкам аддзела літаратурна-мастацкіх праграм Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Галінай Шаблінскай.**



*Фота Кастуся Дробава.*

**— Галіна Васільеўна, пройдзены доўгі творчы шлях. Чым ён азнаменаваны? Як развівалася Беларускае радыё?**

— 90 гадоў Беларускага эфіру сцвердзілі яго багацейшую і ўнікальную гісторыю, якую нездарма называюць сёння «радыёлетапісам» Беларусі. Сапраўды, гісторыя цэлай краіны, яе найважнейшых падзей, адкрыццяў і пераломных момантаў засталіся ў гукавым вымярэнні радыйнай прасторы.

Цяпер нам цяжка нават уявіць, што 90 гадоў таму першая радыёстанцыя магла трансліраваць перадачы ў радыусе толькі 300 вёрст, і гучалі яны ўсяго паўгадзіны за суткі. А ўся наша краіна ў 1925 годзе мела 25 тысяч рэпрадуктараў і некалькі тысяч дэтэктарных прыёмнікаў. Так пачыналася гісторыя Беларускага радыё, а разам з ім і літаратурна-мастацкага вяшчання. У 1926 годзе з'явілася першая пастаянная рубрыка «Літаратурная гадзіна», і, дзякуючы ёй, у жывым эфіры (а тады быў толькі жывы эфір) загучалі выступленні пісьменнікаў, артысты пачалі чытаць мастацкія творы, а праз нейкі час сталі трансліравацца радыёпастаноўкі. Так што той даўні пачатак вызначыў дамінанту сённяшняга літаратурнага эфіру, у якім застаюся жывое слова пісьменніка і пастановачныя мастацкія жанры.

У розныя часы на Беларускім радыё працавалі пісьменнікі У. Юрэвіч, А. Звонак, С. Грахоўскі, К. Губарэвіч, К. Цвірка, М. Матукоўскі, У. Карызна, У. Машкоў, В. Мысліевец, К. Камейша, М. Маляўка, Г. Пашкоў, У. Мехаў, В. Макарэвіч і многія іншыя. 90 гадоў гісторыі Беларускага радыё дазваляюць нам сёння гаварыць пра ўнікальную літаратурную эфірную школу, якую за гэты час прайшлі сотні пісьменнікаў, даследчыкаў літаратуры, рэдактараў, рэжысёраў, гукарэжысёраў, артыстаў.

Нам сапраўды ёсць чым ганарыцца. Літаратурна-мастацкі фонд, створаны рознымі пакаленнямі за 9 дзесяцігоддзяў працы, якім цяпер валодае Беларускае радыё, зрабіў бы гонар любой краіне свету, дзе шануюць нацыянальную культурную спадчыну.

**— У вас насычаная праграма перадач. Што сёння прапануеце ў эфіры?**

— Прысутнасць у эфіры літаратуры пацвярджае не толькі пазнавальную і выхаваўчую функцыі радыё, але яшчэ і эстэтыка-філасофскую і маральную, спрыяе ўдасканаленню мастацкага густу радыёслухачоў. І ў гэтым вялікая роля літаратурна-мастацкага вяшчання як носьбіта высокай нацыянальнай культуры. Аддзел літаратурна-мастацкіх праграм Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё працягвае традыцыі мастацкага вяшчання, запачаткаваныя нашымі калегамі. У эфіры гучаць цыклавыя літаратурныя праекты як дакументальна-публіцыстычных, так і мастацка-пастановачных жанраў. Слова пісьменніка па-ранейшаму застаецца запатрабаваным і актуальным. Тым больш што яны бяруць удзел не толькі ў літаратурных праграмах, але і ў іншых праектах Беларускага радыё ў звязку з той ці іншай тэмай.

Своеасаблівай візітоўкай я б назвала наш «Літаратурны калейдаскоп», які прапануе самыя свежыя і значныя літаратурныя навіны. Маргарыта Прохар і Таццяна Гаргалык, якія рыхтуюць гэту праграму, заўсёды ў курсе самых цікавых падзей.

З гісторыяй беларускай кнігі знаёміць праект «Дыярыуш», сучаснае прачытанне літаратурнай класікі прапануюць госці праграмы «Нам засталася спадчына» (гэтыя праграмы вяду я). Урокі роднай мовы можна атрымаць дзякуючы «Моўным хвілінкам» Веранікі Фурман. Як прыклад мастацкага радыёнарыса — праграма майстра радыёжурналістыкі Валянціны Стэльмах «Галерэя» — серыя аповедаў пра вядомых людзей краіны. Духоўна-адукацыйныя праграмы «Свята душы», «Духоўнае слова» рыхтуе высакакласны радыёжурналіст Людміла Мітаковіч. Шмат цікавых звестак пра гісторыю Беларусі, традыцыі можна пачуць у праекце Марыны Драгінай «Беларускі альбом».

Мастацкае вяшчанне на Першым канале прадстаўлена такімі праектамі, як «Тэатр Беларускага радыё», «Дабравесце ад паэзіі», «Радыёсерыял». Ну і, канечне, наша пашанотная доўгажыхарка на Беларускім радыё — «Вячэрняя казка» для маленькіх слухачоў, якую рыхтуюць М. Прохар і Л. Пташук. У 2013 годзе гэтая праграма адзначыла свой паўвекавы юбілей. Складана падлічыць, колькі беларусаў вырасла разам з казачнай «радыёнянькай».

**— Што наконт навінак?**

— У новым сезоне з'явіліся «Анталогія» — своеасаблівы дадатак да «Радыёсерыяла» па выхадных днях — мастацкія тэксты кароткай формы (апавяданні, эсэ, мініяцюры) і «Ад слова свецішча жыццё…» — 5 лірычных паэтычных хвілін нядзельным вечарам. Так што мастацкае слова, якое гучыць у беларускім эфіры, сцвярджае прысутнасць літаратуры ў нашым жыцці — упоравень часу высокіх тэхналогій і інтэрнэтных вандраванняў.

**— Літаратурна-мастацкае вяшчанне Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё славіцца сваімі радыёпастаноўкамі і радыёсерыяламі. Раскажыце пра гэты кірунак працы.**

— «Тэатр Беларускага радыё» — унікальны эфірны праект, які дае магчымасць нашаму слухачу пазнаёміцца з гісторыяй нацыянальнай тэатральнай культуры і літаратурнай традыцыі. Лепшыя творы беларускай і сусветнай класікі былі ў свой час інсцэніраваны і адаптаваны для радыёверсіі. З дапамогай радыётэатра мы нават можаце ўдасканаліць сваю літаратурную адукацыю, а таксама пачуць галасы майстроў беларускай тэатральнай сцэны розных пакаленняў.

Радыётэатр як мастацкая з'ява на Беларускім радыё існуе з 1930-х гадоў. Сёння ў нашых фондах — сотні спектакляў і пастановак. Самыя першыя пастановачныя запісы, якія дасюль захаваліся, датуюцца пачаткам 1950-х гадоў (ёсць нават некалькі 1949 года). Напрыклад, славутая купалаўская «Паўлінка», шэкспіраўскі «Кароль Лір», пушкінскія «Цыганы», «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Салавей» З. Бядулі, «Рэвізор» М. Гогаля, «Каварства і каханне» Ф. Шылера. У рэпертуары радыётэатра — шмат радыёкампазіцый спектакляў, якія з поспехам ішлі на сцэнах вядучых тэатраў краіны: Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, Беларускага дзяржаўнага тэатра юнага гледача, абласных драматычных тэатраў.

Хочацца з удзячнасцю згадаць сёння цэлую пляяду цудоўных радыёрэжысёраў, якія працавалі над пастаноўкамі ў розныя гады: П. Данілаў, Т. Аляксеева, М. Троіцкая, С. Гурыч, В. Анісенка, І. Лапцінскі, В. Кернажыцкая, З. Паўлоўская ды іншыя.

**— А як сёння з прэм'ерамі? Назавіце самыя адметныя.**

— Мы лічым за гонар працягваць на Беларускім радыё традыцыю пастановачнага вяшчання. За апошнія гады ў нас адбылося некалькі прэм'ер радыёспектакляў, як паводле класікі, так і паводле твораў сучасных беларускіх аўтараў. Напрыклад, «Паэт і дзяўчына» па п'есе П. Васючэнкі да 125-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы (рэжысёр Рэната Патака), «Пастка» паводле аповесці В. Быкава, «Магнаты і сірата. Соф'я, князёўна слуцкая» па гістарычнай драме У. Сыракомлі, «Млечны Шлях» паводле рамана К. Чорнага, «Адгукніся, браце» па п'есе Г. Марчука да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, «…І няма шляху чужога» паводле аповесці У. Саламахі (рэжысёр Алег Вінярскі), «Крыж» па п'есе А. Дударава, радыёверсіі двух спектакляў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы і «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» паводле кнігі Яна Баршчэўскага (рэжысёр Ліка Пташук).

Гэтыя маштабныя пастановачныя праекты патрабуюць канцэнтрацыі таленту і энергіі самых розных творчых людзей. На працягу некалькіх гадоў я з'яўляюся іх кіраўніком і рэдактарам і магу сказаць, як самаадданна і зладжана працуе пастановачная група: рэжысёр, драматург, гукарэжысёр, артысты, рэдактар, інжынеры гуказапісу.

Сёння на радыё змяніліся тэхнічныя магчымасці гуказапісу, праведзены сучасны рамонт студый, удасканалены вытворчы працэс падрыхтоўкі спектакля да эфіру. І ўсё гэта, безумоўна, спрыяе нашай працы.

**— Якія асаблівасці ў падрыхтоўцы радыёспектакля?**

— Пачынаецца праца над радыёспектаклем з выбару п'есы і заканчваецца — для нашага слухача прэм'ерай у радыёэфіры, а для мяне, скажам, як рэдактара, толькі тады, калі я здам пасля прэм'еры скапіраваны на лічбавы носьбіт гатовы прадукт у нашу фанатэку. А паміж гэтым — чытка п'есы рэжысёра з акцёрамі, запіс тэксту ў студыі, мантаж тэксту, падбор музыкі і шумоў, звядзенне тэксту з музыкай і шумамі, даэфірнае кантрольнае праслухоўванне, мастацкі савет… Такім чынам, радыёспектакль да прэм'еры можа рыхтавацца і месяц, і два — у залежнасці ад складанасці матэрыялу і хронаметражу п'есы.

Цікава працуе ў гэтым жанры рэжысёр Алег Вінярскі: як кажуць, «набірае» ад спектакля да спектакля. У яго склаўся выдатны творчы тандэм з гукарэжысёрам Валерыем Бяляевым. Валерый Мікалаевіч — дасведчаны гукарэжысёр, тонкі майстар сучаснага гуказапісу, чалавек надзвычай вытрыманы, скрупулёзны ў працы. Дарэчы, у студыі падчас запісу пануе вельмі творчая атмасфера. Часам акцёры прапануюць рэжысёру свой варыянт прачытання той ці іншай сцэны, і ў агульных спрэчках нараджаецца ісціна.

Увогуле, калі ў 4-й студыі рыхтуецца чарговая прэм'ера, атмасфера святочнасці пануе ва ўсім Доме радыё. Нашы маладыя калегі забягаюць на хвілінку ў апаратную «чацвёркі» і просяць дазволу папрысутнічаць на запісе. Дзе яшчэ, скажыце, надарыцца такая магчымасць паглядзець, як працуюць ля мікрафона, ствараючы канкрэтныя мастацкія вобразы, напрыклад, народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў або народныя артысты Беларусі Марыя Захарэвіч, Арнольд Памазан, Віктар Манаеў?!. Гэта ўсё — незабыўныя ўрокі найвышэйшага майстэрства і ўзорных адносін да сваёй працы.

**— Якая роля гукарэжысёраў у мастацкіх радыёпраграмах?**

— «Радыёсерыял», «Дабравесце ад паэзіі», «Анталогія», «Ад слова свецішча жыццё…», «Вячэрняя казка» — пастановачныя праекты малой формы, але патрабуюць не меншага прафесіяналізму ад творчай каманды. Тут, канечне, я б хацела назваць Людмілу Латушкіну, вельмі дасведчанага гукарэжысёра, якой уласцівы выключны мастацкі густ і высокая патрабавальнасць да сябе і калег. Дарэчы, за гады працы на Беларускім радыё на рахунку Людмілы Васільеўны — таксама шмат цікава афармленых спектакляў. За гукарэжысёрскім пультам «Вячэрняй казкі» — заўсёды ўсмешлівая і добрасумленная ў працы Святлана Крачко. Цікавасць да гэтых жанраў і свае напрацоўкі мае Алена Пранчак, чалавек высокай адказнасці за зробленую справу. Паспяхова засвойвае сакрэты прафесійнага майстэрства ў мастацкім вяшчанні малады гукарэжысёр Людміла Свацікава, якая рыхтуе музычнае афармленне прэм'ерных кампазіцый у праграме «Дабравесце ад паэзіі». Ёсць пра што расказаць яшчэ больш падрабязна, таму што роля гукарэжысёраў у мастацкім вяшчанні — выключная і хочацца ў гэтыя юбілейныя дні Беларускага радыё падзякаваць ім усім за старанне і адданасць прафесіі.

**— Ці можна вылучыць катэгорыю слухачоў, якія часцей слухаюць вас?**

— Нашы слухачы — усе, хто цікавіцца літаратурай і шануе культурныя і духоўныя традыцыі. Таму, напэўна, не вылучала б узроставых і сацыяльных катэгорый. Душа чалавека ў любым узросце прагне гармоніі і прыгажосці. Сапраўдная літаратура дапамагае ў гэтым. І калі не заўсёды атрымліваецца сесці і пачытаць, то хутчэй выпадае паслухаць. Радыё — вельмі дэмакратычны і зручны сродак атрымання інфармацыі, у тым ліку і праслухоўвання мастацкіх праграм. Мы даступныя на розных хвалях, нас можна знайсці ў інтэрнэце. Таямніцу радыйнай мастацкай прасторы ў многім стварае голас артыста, яго харызма. З Беларускім радыё заўсёды супрацоўнічалі і працягваюць з задавальненнем гэта рабіць лепшыя артысты мінскіх тэатраў. Мы ім за гэта вельмі ўдзячны.

**— Ці атрымліваецца ў вашай каманды паспяваць за часам? Што ў планах?**

— За часам не трэба паспяваць, час трэба адчуваць. Ён дазваляе будаваць перспектывы як ідэалістам, так і рэалістам. У ідэале, канечне, можна напланаваць максімум самых неверагодных праектаў з разлікам на масавага слухача. Але рэальная наша задача, я лічу, — найперш захаваць лепшыя традыцыі, якія напрацаваны ў беларускім мастацкім вяшчанні за гэтыя 90 гадоў, і прымножыць іх крэатыўнымі ідэямі, якія нам падкажа якасная сучасная літаратура. А класіка ва ўсе часы застаецца ўзорам і той невычэрпнай крыніцай, адкуль нараджаюцца новыя мастацкія радыёінтэрпрэтацыі.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Тэатр. Такім вы яго не бачылі

**II Моладзевы тэатральны форум краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі прайшоў у Мінску. У ліку ўдзельнікаў — тэатральныя калектывы, групы і творчыя плыні з 14-ці краін свету. Маладыя рэжысёры, драматургі, акцёры, сцэнографы, крытыкі і мастакі сабралі на адной пляцоўцы культурную панараму ідэй, вобразаў і філасофскіх думак — з Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Расіі, Таджыкістана, Украіны, Узбекістана, Эстоніі.**

## ТВОРЧАЯ ПАНАРАМА З 14 КРАІН СВЕТУ

Трынаццаць конкурсных спектакляў у чатырох тэатрах сталіцы змаглі ўбачыць гледачы. Была разгорнута і крэатыўная адукацыйна-пазнавальная праграма: творчыя сустрэчы, «круглыя сталы», воркшопы і майстар-класы. А на выстаўцы маладых мастакоў пад назвай «Сцэнаграфічны калаж» — каля 20 розных поглядаў на мастацтва. Эскізы дэкарацый да «Боскай камедыі» і «Фаўста», крыштальны палац будучыні, жывая Фрыда Кало, чорна-белая геаметрыя пад Кена Кізі…

Дарэчы, квіткі на спектаклі былі прададзеныя яшчэ да адкрыцця форуму. Яго галоўная мэта — заўважыць і падтрымаць таленавітую моладзь. Усе ўдзельнікі змаглі не толькі паказаць сябе, але і павучыцца адзін у аднаго, дамовіцца аб сумесных праектах.



*No Theatre прадстаўляе...*

Беларускі драматург Аляксей Дудараў адзначыў, што II Моладзевы тэатральны форум — гэта знаёмства з новым тэатрам, не кансерватыўным, а свабодным. «Падабаецца ён каму-небудзь ці не, але ён такі. Зменлівы як надвор'е. У свеце сёння неспакойна, таму, калі грымяць гарматы, шчыра хочацца, каб музы не маўчалі, а крычалі, перакрываючы залпы...» — упэўнены драматург. Форум сапраўды стаў не толькі платформай для абмену творчымі ідэямі і вопытам, але і падмуркам для ўмацавання сяброўскіх адносін паміж краінамі-ўдзельніцамі, якія калісьці складалі адзіны Савецкі Саюз.

Старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Азербайджана, мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага нацыянальнага драматычнага тэатра Азэр Нейматаў нагадаў, што I Моладзевы тэатральны форум праходзіў у 2012 годзе ў Кішынёве, так што падрыхтоўка да наступнага этапу, як бачна, была доўгай. «У наш цяжкі час арганізаваць тэатральны конкурс такога маштабу для моладзі — гэта сапраўдны гераізм, а таксама ўпэўнены крок супраць гвалту, тэрарызму і іншых негатыўных з'яў у грамадстве, будучыня якога грунтуецца усё ж такі на культуры», — дадаў Азэр Нейматаў.

Спектаклі форуму паказалі на сцэнах Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра і Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў яшчэ перад пачаткам мерапрыемства выказаў упэўненасць, што форум адкрые новыя імёны, падорыць выдатную магчымасць кожнаму маладому творцу выказаць свой мастацкі светапогляд, паспрыяе збліжэнню самабытных нацыянальных культур, стане той пляцоўкай, дзе атрымаюць пуцёўку ў жыццё новыя творчыя праекты.

Арганізатарамі форуму выступілі Міжнародная канфедэрацыя тэатральных саюзаў, Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарвыканкам і Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі пры фінансавай падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва краін — удзельніц СНД.

## КАХАННЕ ПОБАЧ З ВАР'ЯЦТВАМ

Фестываль стартаваў пазаконкурсным спектаклем — «Чэхаў. Камедыя. Чайка» ад Іскандэра Сакаева. Не, гэта не класічнае прачытанне вядомага твора, а магутны кантраст паміж грубай рэальнасцю і парывамі высокіх пачуццяў. Як і ў многіх з пастановак фестывалю, тут прысутнічае інтэрактыўнасць, дыялог акцёраў і гледачоў, якія сядзяць у зале, але бяруць удзел у п'есах…

Таямніцы шаманаў і старажытных плямён ажываюць на сцэне дзякуючы этнамюзіклу «Боская гульня», які прадставіў Азербайджанскі дзяржаўны акадэмічны нацыянальны драматычны тэатр (Баку), адкрываючы форум. Рэжысёр-пастаноўшчык — Мікаіл Мікаілаў. Гэтая гісторыя, вытканая з пластычнага танца, народнай музыкі і філасофіі, узыходзіць да старажытнага эпасу. Сэнс заснаваны на веры ў несмяротнасць, а дзеянне адбываецца па-за часам і прасторай, там, дзе размаўляюць з багамі і змагаюцца са злымі духамі.

Дзве сястры становяцца цэнтрам псіхалагічнага спектакля «Трамвай "Жаданне"». У Мінск яго прывёз Акмалінскі абласны казахскі музычна-драматычны тэатр імя Шахмета Кусаінава (Какшатау). Рэжысёрам выступіў Булат Абдрахманаў. Перапляценні чалавечых адносін, жаданняў і думак, кругазварот, здавалася б, простых, цёмных, па сутнасці, гутарак — складаная метафара, якую нясуць гледачам акцёры і стваральнікі пастаноўкі. Унутраная барацьба і жаданне насіць маскі, страх перад болем і бездапаможнасць — гэта аповесць пра тое, ад чаго мы хоць раз у жыцці ўцякалі. Канец далёка не бясхмарны, але ён можа быць стымулам, каб змяніць сваё жыццё...

Кампанія Nii і Новы тэатр Тарту (Эстонія) прадставілі на конкурсе абсалютна мадэрновую пастаноўку «Чысты розум / Укусі мяне». Рэжысёр, Рэнатэ Кеерд (дарэчы, адна з самых вынаходлівых харэографаў Эстоніі), абрала жанр фізічнага тэатра. Яна прапануе поўную свабоду разумення, пры якой кожны ў зале знойдзе свой ключ да сутнасці спектакля. Тут ёсць месца правакацыям, а ігравая манера часам уводзіць у ступар, але ўсё неверагодна выразна і нешаблонна. Хоць і не заснавана, як гэта прынята ў тэатры, на літаратурным падмурку. Новы тэатр Тарту — абсалютна адкрытая прастора для рэалізацыі ідэй.

«Смак мёду» — такую назву атрымаў спектакль Ерэванскага дзяржаўнага тэатра юнага гледача (Арменія) па творы Шэйлы Дзілені. Рэжысёр — Гор Маргаран. Гісторыя звяртае ўвагу гледачоў на ўжо дарослую дзяўчыну і адначасова — дзіця, якое вырасла практычна без нагляду, побач з маці, захопленай мужчынамі і кар'ерай... Паўтарэнне лёсаў, знакі, якія пасылае жыццё, барацьба за самае дарагое — усе гэтыя тэмы ўздымае аўтар.

Філасофска-рамантычная музычная драма «Юнацтва Мушфікі» ад Дзяржаўнага таджыкскага тэатра музычнай камедыі імя Камола Худжандзі створана дзякуючы пачынаючаму рэжысёру Курбаджану Бабаджанаву і яго выдатнай камандзе. У галоўнага акцёра, Шукуджана Ібрахімава, першая роля — і вельмі паспяховая. У спектаклі выкарыстоўваецца папулярны ў сучасным тэатры прыём «сцэна ўнутры сцэны», які дазваляе пранікнуцца перажываннямі акцёраў яшчэ мацней. А ў якасці дэкарацый — не паверыце — мора. Так, некаторыя сцэны адбываюцца проста ў вадзе, у імправізаваным басейне!

Магілёўскі абласны тэатр лялек (Беларусь) пад кіраўніцтвам рэжысёра Ігара Казакова прадставіў на форуме «Гамлета». Гэта, зноў жа, не класіка: ніякіх пакут і барацьбы за праўду, хоць запалу — звышдастаткова, дакладней, пародыі на яго. Крытыкі называюць пастаноўку ці то коміксам, ці то антыўтопіяй. Гамлет тут выглядае інфантыльным дзіцём у дарослай «шкуры», які імітуе рэальнага шэкспіраўскага героя, каб не ўспрымаць навакольную яго рэчаіснасць. Аддаленасць людзей адзін ад аднаго ў сучасным грамадстве — адна з галоўных праблем спектакля.

Поўная лірыкі і паэзіі прытча пра маральнасць «У баку, дзе ўзыходзіць сонца» была выканана трупай Узбекскага нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра (Ташкент). Рэжысёр — Аскар Халмумінаў. Рыжскі рускі тэатр імя Міхаіла Чэхава (Латвія) прадэманстраваў спектакль «Индраны» дзецішча рэжысёра Элмара Сянькова пра перасячэнне эпох і барацьбу пакаленняў. Мінімалістычную пастаноўку «Дзеці голаду. Сведчанні» можна было ўбачыць дзякуючы Нацыянальнаму тэатру імя Міхая Эмінеску (Кішынёў) ад рэжысёра Лумініцы Цыку. Дзеянне заснавана на рэальных падзеях — голадзе 1946 — 1947 гадоў у Бесарабіі. Тут, словамі Мілана Кундэры, галоўныя на рынку эмоцый — няспешнасць і сапраўднасць. А яшчэ — строгасць і музычная рытміка, што дазваляе паступова паглыбляцца ў роздумы...



*Сцэна са спектакля «Калігула».*

Тэатр Каралеўскага квартала з Тбілісі распавёў мінскім гледачам пра «Жанчын Троі». Рэжысёрам спектакля выступіў Давід Тавадзэ, які ўзяў за аснову трагедыю Еўрыпіда і перанёс яе на 90-я гады XX стагоддзя, узняўшы вострую тэму гвалту над жанчынамі ў час вайны.

Горад мёртвых душ становіцца квінтэсенцыяй спектакля «Воблакарай» Лысьвенскага тэатра драмы імя А. А. Савіна (Расія). Сцэна, засыпаная просам, што сімвалізуе пясок, — імітацыя



*Рымскі імператар у XXI стагоддзі.*

жыцця, якое цячэ праз пальцы... Хто тут сапраўдны? Незразумела. Як быццам нічога не адбываецца, але штосьці павінна здарыцца. Усе застылі на фоне дэкарацый у жоўтых тонах — колеры вар'яцтва.

## ЖАРСЦІ І ЗДАНІ

Мы не носім вопратку, таму што яна, нікчэмная дробязь у жыцці, скоўвае волю. Далоў умоўнасці! Паспрабуйце, напрыклад, завалодаць месяцам! Гэта ж сумна, не кіруючы законамі прыроды, жыць на зямлі. Нічога не застаецца, як стаць вар'ятам... А вы ўмееце па-сапраўднаму баяцца? Страх, а не супакаенне, падганяе да дзеяння. Вы здранцвелі ад лятучых крэслаў, вады, што льецца на галаву, жорсткасці і нястрымнага смеху, абсалютнай галізны, адкрытых сцэн і балючай страсці? Баіцеся, што на гэтай урачыстасці хаосу выкрадуць вашыя рэчы або сапсуюць прычоску? Тады просьба пакінуць залу. Літоўскі рэжысёр Відас Барэйкіс і рух *No Theatre* прывезлі на II Моладзевы тэатральны форум краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі адзін з самых скандальных і супярэчлівых спектакляў конкурсу — «Калігулу». Зала для гледачоў і акцёрская сцэна пазбавіліся межаў — усе ўдзельнікі працэсу размясціліся на адной прасторы.

У распараджэнні акцёраў, па сутнасці, быў толькі велізарны драўляны стол, пластыкавая бутля з вадой, лялькі з тканіны, гітара і камера, якая дублюе ўсё, што адбываецца, на вялікі экран, узмацняючы атмасферу вар'яцтва. Відас Барэйкіс назваў свой спектакль калектыўным суперажываннем, размеркаваўшы перад яго пачаткам некалькі роляў сярод... гледачоў! Нічога дзіўнага, таму што акцёры з *No Theatre* выходзяць на вуліцу і маюць зносіны з людзьмі наўпрост, імправізуючы ў грамадскіх месцах. Яны падштурхоўваюць публіку да творчасці — і ў іх гэта выдатна атрымліваецца.

Спектакль «Каханне людзей» Кіеўскага акадэмічнага Маладога тэатра ад рэжысёра Стаса Жыркова таксама вылучаецца на фоне іншых. Правінцыяльны трылер — так ахарактарызавалі яго стваральнікі. Абстаноўка сапраўды вясковая: драўляны плот замест вуліцы ды некалькі стулаў у інтэр'еры. Але асноўнае, канечне, не знешнасць. За абалонкай весялосці і жартаў зусім хутка прабіваецца шалёнае вар'яцтва, размовы з мёртвымі, удушша ад пачуцця віны і нястрымны алкагалізм... Так і ў жыцці: калі своечасова не змяніць свой лёс, настане момант, калі будзе ўжо позна…

Нягледзячы на багацце другасных герояў, у канцы спектакля кола замыкаецца на любоўным трохкутніку, людзях, якія страцілі адно аднаго, не зберaглі... Напал эмоцый дасягае такой моцы, што, седзячы ў зале, у адзін момант кажаш сабе: больш не вытрываю! Але не рухаешся з месца.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# Паміж святам і бядой

Арт-праект Жанны Капуснікавай «Другія Дажынкі» адкрыўся ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў. Выстаўка, што размясцілася адразу ў некалькіх залах, — працяг папярэдняга праекта мастачкі «Дажынкі», які быў прадстаўлены ў 2013 годзе ў Галерэі Міхаіла Савіцкага. Героі «перавандравалі» з адных карцін на іншыя, ды толькі настрой у іх кардынальна памяняўся. Мяжа паміж шчасцем і горам на палотнах ўмяшчаецца ў некалькі секунд. Калі два гады таму Жанна Капуснікава адлюстроўвала яркае, дыскатэчнае, сунічнае і радаснае сельскае жыццё тых, хто працуе і адпачывае ў духмянай траве, будні і выходныя модных і бесклапотных даярак, трактарыстаў і фермераў, то сёння персанажы на яе палотнах авеяны горам, смерцю і адчаем.



*«Палессе».*

«Зусім хутка свет зменіўся, і на традыцыйны папрок мастаку: "Вы занадта адрываецеся ад жыцця!" захацелася адказаць: "Хутчэй, усе мы занадта адрываемся ад смерці"», — прызнаецца мастачка. Паводле яе слоў, многія не задумваюцца над тым, што кожнае імгненне трэба шанаваць: хто ведае, што там, у будучыні?

Манера пісьма Жанны Капуснікавай не змянілася: усё тыя ж кіслотна-выбуховыя фарбы, уплыў народных маляванак, вычварныя ўборы, ды толькі выразы твараў герояў і сюжэты выклікаюць, у кантрасце з першымі работамі, па меншай меры шок. Новую серыю мастачка назвала антыўтопіяй: у межах адной выставачнай прасторы «пасяліліся» «Дажынкі» з бясхмарным запалам і «Другія Дажынкі», змрочныя і прыземленыя. Усяго — каля 30 палотнаў.

Па словах намесніка дырэктара па творчай рабоце Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Дзяніса Барсукова, аўтар не змагла застацца ўбаку ад вайны, што апанавала свет. Паўплывалі і трагічныя падзеі, якія адбываюцца недалёка ад Беларусі, таму на палотнах бачна, наколькі свята можа хутка змяніцца бядой.

«Контур карцін выканаваны ў стылі маляваных дываноў, вядомым стваральнікам якіх з'яўляецца Алёна Кіш. Жанна ўзяла адтуль канструкцыю — арнамент у выглядзе птушак, кветак, садавіны і гародніны. На карцінах можна ўбачыць і ўплыў стылістыкі стрытарту, маладзёжнага жывапісу — пра што сведчаць флюарэсцэнтныя фарбы. Сэнс — у кантрасце», — дадаў Дзяніс Барсукоў.

Адкуль у Жанны Капуснікавай, якая нарадзілася і жыве ў горадзе, сельскія матывы? Яе сын Георгій, фатограф і падарожнік, аднойчы паехаў працаваць памочнікам камбайнера. А потым распавядаў матулі розныя гісторыі, якія і сталі сюжэтамі для некаторых карцін.

Дарэчы, чаму менавіта дажынкі? «З велізарнага мноства свят, свята збору ўраджаю — мабыць, самае важнае, добрае і сумленнае… Спакон вякоў ва ўсіх народаў і культур яно нясе агульную вялікую сутнасць — упэўненасць у недарэмна выдаткаванай працы і падвядзенне вынікаў. Праца прыносіць радасць, а ўпэўненасць нараджае надзею і веру ў лепшае заўтра. Гэта надае жыццю сілу і сэнс», — тлумачыць мастачка.

Цяга да нацыянальнага каларыту і прыродных матываў напаткала творцу, па яе словах, раптоўна. Хоць яшчэ ў 1990-х гадах яна працавала над нацыянальнымі сцэнічнымі касцюмамі, першым заказчыкам якіх быў сам Уладзімір Мулявін, а потым — і іншыя калектывы Беларусі. Акрамя таго, мама мастачкі нарадзілася на Палессі.

Некаторыя крытыкі папракалі Жанну Капуснікаву ў тым, што рэальнае вясковае жыццё выглядае на яе карцінах не так, як на самай справе. Але ж мастацтва — часта жывая метафара, аўтарскае бачанне.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Творчасцю паяднаныя

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прадстаўляе выстаўку выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Аляксандра і Тамары Сцяцэнка «Украіна, цвеце любы, сонцам гадаваны».

Экспазіцыя, арганізаваная пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, прапануе жыхарам і гасцям сталіцы бліжэй пазнаёміцца з творчасцю яркага сямейнага дуэта. Слонімскія мастакі з украінскімі каранямі прэзентуюць творы жывапісу і графікі, габелены, над якімі працавалі на працягу апошніх трыццаці гадоў.

Аляксандр Сцяцэнка нарадзіўся на Луганшчыне, скончыў Львоўскі інстытут прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва. Яго жонка Тамара родам з Брэстчыны, адукацыю атрымала ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава і ў Віцебскім тэхналагічным інстытуце лёгкай прамысловасці. У Слоніме майстры жывуць з 1984 года. Разам працуюць на фабрыцы «Тэкстыльшчык», дзе ствараюць эскізы ўзорыстых тканін, актыўна ўдзельнічаюць у выстаўках мастацкай суполкі «Арт-Слонім».

Аляксандр Сцяцэнка працуе ў розных жанрах. На выстаўцы можна пабачыць шмат каларытных і пранікнёных партрэтаў, кветкавых нацюрмортаў, маляўнічых пейзажаў, дзе адлюстраваны мясціны падарожжаў па Беларусі і Украіне. Творы мастака вылучаюцца багаццем колеравых рашэнняў, выразнасцю, тонкай перадачай дэталяў.


*Аляксандр Сцяцэнка. «Раніца Слоніма». 2010 г.*

Аўтарству Тамары Сцяцэнкі належаць рукатворныя габелены, у якіх увасобленыя слонімскія і палескія краявіды, раслінна-кветкавыя вобразы, дзіўныя птушкі і жывёлы. У вырабах майстрыхі, дасканалых і вытанчаных, пераплятаюцца беларускія і ўкраінскія народныя вытокі.

Творчасць аўтараў — яскравае сведчанне духоўнай еднасці братэрскіх народаў. Экспазіцыя запрашае па-іншаму зірнуць на рэчаіснасць, убачыць прыгажосць і гармонію навакольнага свету.

Выстаўка працуе да 2 снежня.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Горныя прыгажуні

Выстаўка вядомага кітайскага мастака Чэнь Моу адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя была даступная гледачам усяго адзін дзень, але да тых, хто паспеў яе ўбачыць, яшчэ доўга будуць прыходзіць сны пра Паднябесную…


*«Прыгажосць гор».*

Свае палотны мастак ставрае мінеральнымі фарбамі ў стылі шаньшуй — «горы і рэкі». Чэнь Моу любіць адлюстроўваць на карцінах і людзей: маладую дзяўчыну, што ідзе з вёдрамі, поўнымі маленькіх гусянят, па горнай дарозе, з цікаўнасцю азіраючыся па баках, ці вясёлую гурбу дзяцей, якія вяртаюцца пасля ўрокаў дадому з кошыкамі галля за спіной. Ёсць у майстра і сімвалічныя палотны. Страката апранутая дама ў доўгай, як у цыганкі, спадніцы, цёплай шалі і элегантна павязанай яркай хустцы становіцца цэнтрам карціны «Прыгажосць гор». Іншая прыгажуня, апранутая ў амаль бязважкую, нібы паветра, сукенку з кошыкамі, поўнымі кветак, увасабляе раннюю восень. Многіх персанажаў Чэнь Моу паказвае за працай: падчас восеньскага жніва альбо ўборкі садавіны. Дарэчы, на адной з карцін Чэнь Моу намаляваны мінскі Чырвоны касцёл, на іншай — царква ў Віцебску з відам на набярэжную. Захапленне мастака краявідамі Беларусі відавочнае.

Часткай экспазіцыі таксама сталі некалькі карцін выкладчыцы Акадэміі мастацтваў Кітая Юй Гуймінь. Мастачка паказала Мінску некалькі сваіх экзатычных папугаяў, калібры і неверагодныя прыгажосці кветкавыя дрэвы.

Чэнь Моу ўжо не ў першы раз наведвае Беларусь. Па словах мастака, наша краіна зачароўвае не толькі прыгожай прыродай, але і прыязнымі людзьмі. Зрэшты, гэтым мы падобныя з кітайскім народам. Пра ўзаемапранікненне культуры і мастацтва дзвюх рэспублік казаў на адкрыцці выстаўкі міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Колькасць сумесных кітайска-беларускіх мерапрыемстваў і праектаў сапраўды ўзрастае з кожным годам, а абмен выстаўкамі даўно стаў традыцыйным.

Як паведамілі ў музеі, Чэнь Моу з'яўляецца адным з кіраўнікоў Кітайскага таварыства вывучэння жывапісу, намеснікам дэкана факультэта кітайскага традыцыйнага жывапісу Цэнтральнай акадэміі мастацтваў, прафесарам і рэктарам Інстытута завочнага навучання кітайскага традыцыйнага жывапісу. Выкладчыцкую і арганізатарскую працу ён з поспехам сумяшчае з асабістай творчай дзейнасцю — хаця майстру ўжо больш як 70 гадоў.

Падчас адкрыцця выстаўкі дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў прэзентаваў прысутным першы аўдыягід на кітайскай мове, адзначыўшы, што кітайскіх студэнтаў становіцца ў Беларусі ўсё больш, і яны, калі прыязджаюць у нашу краіну, яшчэ не ведаюць іншых моў, акрамя сваёй роднай. «Ствараючы аўдыягід, мы хацелі, каб студэнты і спецыялісты з Кітая, якія вучацца ў Мінску, далучаліся да скарбаў беларускай нацыянальнай культуры, мелі свабодны доступ да шэдэўраў, прадстаўленых у музейнай экспазіцыі».

На цырымоніі адкрыцця выстаўкі Чэнь Моу прысутнічалі таксама прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, прадпрымальніцкіх колаў, кіраўнікі творчых саюзаў. Салістка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Ганна Бяляева, а таксама канцэртмайстар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Юлія Ахотнікава парадавалі аматараў мастацтва Паднябеснай песнямі на кітайскай і рускай мовах. Выстаўка была арганізавана Беларускай канфедэрацыяй творчых саюзаў пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

**Марыя ВОЙЦІК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 26.11.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1948.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1499 г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12